

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 6(89) Чэрвень 2001 June Год выд. 9.


## "РЭГІЯНАЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ" ПАДТРЫМАЛА СЯМЁНА ДОМАША

*З'езд нефармальнага грамадскага аб'яднання «Рэгіянальная Беларусь», ці з'езд грамадскасці краіны, 26 траўня фактычна даў свайму лідэру Сямёну Домашу пуцёўку на прэзідэнцкія выбары. Прагнозы аналітыкаў цалкам апраўдаліся: 815 дэлегатаў з 99 рэгіёнаў Беларусі адназначна заявілі пра найактыўны ўдзел «Рэгіянальнай Беларусі» ў прэзідэнцкай кампаніі і публічна выказалі падтрымку патэнцыйнаму кандыдату ў прэзідэнты з Гродна. Адзіная пастаўленая перад з'ездам задача – падтрымаць старшыню Каардынацыйнай рады «Рэгіянальнай Беларусі» Сямёна Домаша паспяхова выкананая. Хаця фармальнай прычынай з'езда называлася падвядзенне гадавой дзейнасці Каардынацыйнай рады, створанай 18 траўня 2000 года.*

Выступоўцы ад рэгіёнаў даказвалі неабходнасць тэрміновага вылучэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты, прычым усе схіляліся да думкі, што гэтым *адзіным* мусіць быць іхні лідэр. У сваім невялікім дакладзе С.Домаш, як водзіцца, выклаў сваё бачанне ўнутрыпалітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне. Адной з важнейшых негатыўных вехаў сямігадовага праўлення А. Лукашэнкі лідэр «Рэгіянальнай Беларусі» назваў «дзяржаўны пераварот» 1996 года, які прывёў да «ліквідацыі прадстаўнічай улады, а з ёю і прававой дзяржавы»; «дзяржаўны суверэнітэт стаў разменнай манетай у не зусім чыстай палітычнай гульні кіраўнікоў Беларусі». Самай трапнай характарыстыкай цяперашняй сітуацыі варта лічыць выказванне, што «яшчэ пяць гадоў такога кіравання Беларусь не вытрымае».

Сямён Домаш сцвярджае, што ён і яго прыхільнікі ведаюць шляхі да «беларускай мары». Апрача агульных словаў кшталту «дзеля выратавання нашага **агульнага дома – Беларусі** мы павінны кансалідавацца», даклад патэнцыйнага прэтэндэнта не быў пазбаўлены некаторай канкрэтыкі. Так, Сямён Домаш лічыць неабходным стварыць урад народнага даверу, куды мусяць увайсці прадстаўнікі ўсяго палітычнага спектра рэспублікі. С.Домаш выступае за канстытуцыйную рэформу, калі многія цяперашнія паўнамоцтвы прэзідэнта будуць вернутыя парламенту і ўраду, і аднаўленне паўнавартаснага парламента, дзеля чаго неабходна правесці выбары па прапарцыянальна-мажарытарнай сістэме.

Асаблівую ўвагу Сямён Домаш звярнуў на «замацаванне добрасуседскіх і ўзаемавыгадных адносінаў з Расіяй». Гэта магчыма пры захаванні чатырох прынцыпаў: пры забеспячэнні суверэнітэту Беларусі, акцэнт на эканамічнае супрацоўніцтва, а не на падпісанне віртуальных палітычных дамоваў, лозунг «Беларусь з Расіяй супраць Еўропы» замяніць на «Беларусь – мост паміж Еўропай і Расіяй».

Сямён Домаш бачыць адной з першачарговых мэтаў рэзкае абмежаванне дзяржаўнага кантролю над СМІ. Паводле патэнцыйнага кандыдата, найперш мусіць быць усталяваны кантроль над Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніяй, прычым кантроль не ўладны.

Мусіць быць створаны грамадскі наглядальны Савет (па ўзоры, відаць, расійскага НТВ), створаны на парытэтных пачатках з прадстаўнікоў улады, партыяў, грамадскіх арганізацыяў, журналісцкіх саюзаў.

Звяртае на сябе ўвагу і яшчэ адзін лозунг, агалошаны Сямёнам Домашам. У існуючай сітуацыі ён набывае надзвычайную актуальнасць. «Лічу прынцыповым тое, што дзяржавай павінны кіраваць псіхічна здаровыя людзі. І таму ўсе кандыдаты на пасаду прэзідэнта павінны прайсці незалежнае медыцынскае абследаванне стану псіхічнага здароўя».

Абсалютная большасць дэлегатаў падтрымала прапанаваную рэзалюцыю з'езда. «Мы падтрымліваем пагадненне пяці магчымых кандыдатаў: У. Ганчарыка, С. Домаша, П. Казлоўскага, С. Калякіна, М. Чыгіра, а таксама намаганні КРДС, скіраваныя на кансалідацыю грамадства і вылучэнне адзінага кандыдата. Усведамляючы, што будучыя прэзідэнцкія выбары могуць мець вырашальнае значэнне для далейшага лёсу Беларусі, мы, прадстаўнікі грамадзкасці рэгіёнаў Беларусі, заяўляем пра свой актыўны ўдзел у будучай прэзыдэнцкай кампаніі і выказваем сваю падтрымку магчымаму кандыдату кіраўніку Каардынацыйнай рады "Рэгіянальнай Беларусі" – Сямёну Домашу», — гаворыцца ў дакуменце.

На пасляз'ездаўскай сустрэчы з журналістамі С. Домаш заявіў, што «на прэзідэнцкіх выбарах рэгіянальныя арганізацыі выступяць кансалідавана, і мы будзем мець большыя шанцы на перамогу». «У дакументах з'езда няма пацверджання таму, што мы распачалі передвыбарную кампанію. Ніякага фальстарту таксама няма. Ідзе аналіз сітуацыі і як грамадска-палітычныя сілы ставяцца да выбараў і каго б яны хацелі бачыць у якасці магчымых кандыдатаў»,



так С.Домаш пракаментаваў з'езд «Рэгіянальнай Беларусі». С.Домаш адмаўляе, што падобнае рашэнне пагорыцць сітуацыю ўнутры «пяцёркі» патэнцыйных кандыдатаў. «Калі б яны прысутнічалі сёння на нашым мерапрыемстве, яны б адчулі падтрымку і для сябе», — лічыць С.Домаш. Аднак астатнія прэтэндэнты на пасаду прэзідэнта, запрошаныя на з'езд, адмовіліся прыйсці на форум. І хоць С.Домаш звязвае гэта з тэхнічнымі прычынамі, відаць, справа ўсё ж у іншым. Відавочна, што ідэя адзінага кандыдата, якую больш за год спрабавала радзіць КРДС, памерла, паспеўшы хіба што паставіць крыж на самой Каардынацыйнай радзе. Членства Народнай Грамады у КРДС прыпыненае; афіцыйна выйшла з Рады Беларуская партыя працы, а цяпер і партыя жанчынаў «Надзея». Фактычна, КРДС ужо не мае кворуму. Тым не менш, адразу пасля стварэння «пяцёркі», калі з'явілася хоць нейкая пэўнасць у стане апазіцыі, КРДС, якая самаўхілілася ад вызначэння адзінага кандыдата (пра гэта заявіў С.Домаш 3 траўня на першай прэс-канферэнцыі «пяцёркі»), рэанімiравала бясплодную ідэю адзінага кандыдата і паспрабавала яе ажыццявіць. Тое, што аднаго з «пяцёркі» – Сямёна Домаша – найактыўна лабіруе КРДС, захапленне сярод астатніх прэтэндэнтаў, зразумела, не выклікае.

Па-другое, у грамадскай свядомасці за С. Домашам усталявалася характарыстыка «правага прэтэндэнта». Калі глянуць на расклад сілаў, прысутных на з'ездзе, то гэта насамрэч так. Са 107 рэгіянальных партыйных структураў 73 прадстаўляюць БНФ, 20 – АГП і 14 – БСДП (Народная Грамада). Пры гэтым не бяруцца ў разлік структуры грамадскага руху БНФ «Адраджэньне», прафронтаўскіх арганізацыяў Малады Фронт, «Адраджэньне Айчыны», праваабарончы цэнтр «Вясна» ды іншыя. Можа быць, чацвёрка апасалася быць абвінавачанай у прыхільнасці да правых сілаў – таму на з'езд і не прыйшла.

Закончылася сустрэча С.Домаша з журналістамі невялікай сенсацыйнай заявай, што з 15 студзеня па 15 сакавіка спецслужбы трымалі яго пад каўпаком і за патэнцыйным кандыдатам у прэзідэнты вялося татальнае сачэнне. «Магчыма, сачэнне ёсць і цяпер, але я яго не адчуваю», — падкрэсліў Сямён Домаш.



**Спадар Сакрат ЯНОВІЧ —**

**абсальвэнт паляністыкі Варшаўскага ўнівэрсытэту, аўтар 26-ці кніжак, што выходзілі ад Лёндану да Менску, літаратар з сусьветным імянем, адзін з чатырох беларусаў, што ўваходзяць у Энцыкляпэдыю "Пісьменьнікі Сьвету", вялікі і адважны патрыёт свайго народу.**

**Паважаны Сакрат! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**



**У штодзённай мітусьні і дрымоце, — не забывайце дапамагаць нашай газэце!.**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і дапісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Генадзь БУРАЎКІН** (Б.Ч.)

# Слухайце Прарока!

Мне чамусьці ўсё часцей здаецца, што многія вышэйшыя асобы нашай дзяржавы даўно ўжо не чытаюць кніжак. Можа, з-за штодзённай празмернай занятасці неадкладнымі гаспадарчымі справамі, можа, з-за непазбежнай прывязанасці да чужых і ўласных бюракратычных папер, а можа, проста з-за адсутнасці духоўнай патрэбы ў сустрэчы з мастацкім словам. Таму і не дзіўна, што ў вольную хвіліну іх стамлёная рука цягнецца не да томіка паэзіі ці прозы, а да кнопкі тэлевізара з бясконцымі бойкамі і разухабістымі эстраднымі шлягерамі на экране. Мудрыя дзяржаўныя галовы і неспакойныя, знясіленыя сэрцы нашых абраньнікаў, так бы мовіць, адпачываюць ад высокіх дум і ўзнёслых парыванняў.

Зусім не хачу ні асуджаць іх, ні папракаць у залішняй прыземленасці ці прагматычнай бяскрыласці, але міжволі ўспамінаю таго самага Леніна, якога сёння ці то бязлітасна ганяць, ці то бяздумна абагаўляюць, і які нават у тэарэтычных працах не абыходзіўся без спасылак на Льва Талстога і Някрасава, на Салтыкова-Шчадрына і Антона Чэхава. Прыгадваю і "тутэйшага" Аляксандра Чарвякова, які сябраваў з Янкам Купалам і паспяваў прачытаць усе навінкі тагачаснай беларускай літаратуры. Ці то час быў іншы, ці то іншыя былі людзі...

Трывога мая і гаворка мая ўрэшце не зусім пра гэта, а пра тое, што, як даўно заўважана філосафамі і палітыкамі, "святое месца пустым не бывае". І калі ў галовах і сэрцах дзяржаўных мужоў нашых не знайшлі сабе надзейнага прытулку падказкі народных прарокаў і азарэнні майстроў слова, дык туды хітранька і хуценька пралезлі са сваімі замшэлымі ідэйкамі і старымі зацёртымі штампамі прыблудныя кар'ерысты і нястомныя халуі-славаблуды. Вось і атрымліваецца, што, прымаючы сапраўды лёсавызначальныя для Беларусі рашэнні, той-сёй азіраецца не на мудрасць і запаветы Сапегі і Каліноўскага, Купалы і Коласа, а на ліслівыя нашэптванні Селязнёва ці Бабурына, Барадзіна ці Затуліна. А для іх, як вядома, наша дзяржаўная незалежнасць і наша нацыянальная годнасць — не больш як другарадныя рэчы пры ажыццяўленні далёкасяжных планаў вялікай Расіі. Ці не карысней было б мінскім "рулявым" не выслухоўваць усур'ёз амаль адкрытыя імперскія парады чыноўных суседзяў, а перагартаць, напрыклад, вершы і артыкулы Янкі Купалы, які, як ніхто іншы на зямлі, любіў Беларусь, разумеў і выказваў душу беларуса? У яго, нашага Песняра і Прарока, ёсць прамыя адказы на нашы вечныя балючыя пытанні. "Цікавыя людзі мы — беларусы! Трэба прызнацца, што, якое бы ліха навокал нас і з намі ні рабілася, якіх бы мы ні перажывалі нягод і крыўд — мы гэтага як бы не бачым, а калі і бачым, то ціха церпім ды чакаем, што вось нехта прыйдзе і гэта нашае ліха пабярэ з сабою».

Гэта напісана ў 1919 годзе. Але хіба не надзённа гучыць яно і сёння, хіба такое не жыве дасюль у нашым менталітэце, нашым нацыянальным характары, хіба не павінны гэтага ўлічваць у сваёй дзейнасці сучасныя палітыкі?

І далей — нібы ў працяг думкі: "Шчасьлівы край гэта — наша Бацькаўшчына Беларусь! Які час гістарычны ні возьмем, з якога боку цяпершчыны ні глянем, адусюль, як у Піліпаўку снег, сыплецца і сыплюцца на яе апекуны... І кожны з гэтых няпрошаных апекуноў цягне душу беларускую на свой млын... Ідзе ганебны торг, паскудная камедыя над няшчасным, абняволеным беларусам..."

Гэта 1914 год. І зноў жа — хіба не адгукаецца гэта ў нашым часе?

І як выснова пакутных пошукаў ісціны і справядлівасці, як глыбокае перакананне і непахісная вера, дакладна і сцісла сфармуляванае: "...Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу" (1919 год).

У Купалы ёсць цікавыя думкі і нават практычныя прапановы па канкрэтных задачах дзяржаўнага будаўніцтва на Бацькаўшчыне, па неадкладных патрэбах ладкавання нашага агульнага дома. У публіцыстычных выступленнях, асабліва ў 1919-1920 гадах, ён, напрыклад, усхвалявана разважае над зямельнай рэформай, над прынцыпамі арганізацыі нацыянальнага войска, над шырокім уцягненнем моладзі ў палітычнае жыццё, над адносінамі паміж уладай і вернікамі, над неабходнасцю стварэння свайго гімна, і, вядома ж, над лёсам нацыі. Гэта ўсё надзвычай шчырае, зацікаўленае выяўленне турбот і трывог патрыёта-грамадзяніна, які добра бачыў складанасці і трагедыі беларускай гісторыі, да канца верыў у розум і працавітасць роднага народа і гатовы быў на нялёгкую бітву за ягоную светлую будучыню. З якімі болем і горыччу, але і з якім бязмежным аптымізмам казаў ён на 15-годдзі сваёй літаратурнай працы:

"На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку посной поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца. У адным з псалмаў біблейскіх сказана: "Станоў Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць." Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць па-божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне праклiццямі ўспамінаць. Дык не зважаймa на здраду, а пойдзем далей сваім хоць цярністым, але святляным шляхам, па якім дагэтуль ішлі, з верай і надзеяй к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і для кожнага паасобку..."

Сумняваюся, што гэтыя і іншыя радкі нашага Прарока (а іх жа цэлы том) ведаюць і перачытваюць сённяшнія ачольнікі беларускай дзяржавы. Каб яны іх памяталі, дык не так бы смела рваліся ў абдымкі магутнай суседкі, куды болей даражылі б скарбамі беларускай мовы, куды з большым веданнем ставіліся да традыцый і звычак роднага народа і не схіляліся б у паважным паклоне перад чарговым шараговым заезджым чыноўнікам...

У свой час, будучы ў братняй нам Украіне, я пабачыў, што кожны культурны ўкраінец абавязкова мае ў сваёй сям'і "Кабзара" Тараса Шаўчэнкі, ад сыноў да ўнукаў перадаючы запаветы і песні свайго вялікага паэта. Каб жа такое завесці і ў нас — хай бы ў кожнай хаце была кніга Купалы, хаця б выдатны томік "Жыве Беларусь", вельмі беражліва і ашчадна складзены Вечаславам Рагойшам і выпушчаны ў 1992 годзе выдавецтвам "Мастацкая літаратура" (дарэчы, даўно пара яго перавыдаць)! Улічваючыся ў геніяльныя творы Песняра, кожны беларус набіраўся б адчування нацыянальнай годнасці, палкай любові і адданасці нашай мілай зямельцы. Адкладзіце ж убок, шаноўныя земляні, глянцавыя кніжкі модных марыніных ды дашкавых, разгарніце Купалу — **паслухайце Прарока!..**

*********************************************************************

## Легенда беларускага друку

Гэта газета праіснавала толькі дзевяць год. Яе наклад - каля двух тысяч экзэмпляраў - быў невялікі нават для таго часу. У рэдакцыі не было ні дзяржаўнай падтрымкі, ні грошай. Увесь час адчуваўся шалёны супраціў непараўнальна больш магутных сіл - урадавага блоку, з аднаго боку, і польскіх памешчыкаў - з другога. Але, нягледзячы на гэта, менавіта пад кіраўніцтвам "Нашай нівы" развіваўся беларускі нацыянальны рух у пачатку XX стагоддзя. Газета здолела аб'яднаць вакол сябе большую частку беларускай інтэлігенцыі і выпрацаваць нацыянальную ідэю. У яе асяроддзі фарміравалася ідэя незалежнай Беларусі. Яна ўвайшла ў гісторыю як сапраўдная легенда беларукага друку. А дзесяцігоддзе, калі яна выдавалася, атрымала назву "нашаніўскага" перыяду.

"Нашу ніву" рабіла моладзь. Падлічана, што сярэдні ўзрост яе супрацоўнікаў быў 25 гадоў. Імёны большасці з іх у будучым сталі хрэстаматыйнымі: Янка Купала і Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі і Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля і Алесь Гарун, Цётка і Якуб Колас... Ім з нумара ў нумар прыходзілася даводзіць, здаецца б, бясспрэчныя рэчы: што беларускі народ ёсць і мае права на існаванне, што існуе яго мова, што за ім стаіць шматвяковая гісторыя... Яны пра- тэставалі супраць русіфікацыі і паланізацыі беларусаў, падзелу іх па веравызнанні на "рускіх" і "палякаў". Беспярапынна заклікалі да стварэння беларускіх школ і ўвядзення беларускай мовы ў царкву і касцёл. І заклікі гэтыя, трэба адзначыць, мелі свой плён - пад уплывам "Нашай нівы" па-беларуску пачалі служыць набажэнствы асобныя святары і з'явіліся першыя прыватныя бела- рускамоўныя школы.

Першачарговую сваю задачу "Наша ніва" бачыла ў фарміраванні нацыянальнай сьвядомасці народа. Гэтаму і была прысвечана большасць яе матэрыялаў. Акрамя таго, у газеце друкаваліся артыкулы пра праблемы эканомікі, літаратурныя агляды, гістарычныя даведкі, быў цэлы сельскагаспадарчы аддзел і нават змяшчаліся парады па асабістай гігіене.

"Наша ніва" не раз станавілася ініцыятарам правядзення розных акцый. Напрыклад, разумеючы, што выпуск навукова-папулярнай літаратуры ўскладняецца нераспрацаванасцю беларускамоўнай навуковай тэрміналогіі, рэдакцыя зьвярнулася да інтэлігенцыі з просьбай запісваць ад сялян словы з усіх галін рамяства, навукі, гандлю і промыслаў.

Вялікая заслуга "Нашай нівы" ў станаўленні беларускай літаратурнай мовы, бо пісьменнікі, адыграўшыя выключную ролю ў гэтым працэсе, былі згуртаваны менавіта вакол яе. Пры рэдакцыі газеты зараджаўся Беларускі нацыянальны музей. Па ўсёй краіне для яго збіралі медалі і крыжы, унікальныя слуцкія паясы, музычныя інструменты, старажытную зброю, рукапісныя кнігі і старадрукі.

Шмат для каго з пісьменнікаў і паэтаў шлях да вядомасці і народнага прызнання пачаўся з "Нашай нівы". На яе старонках дэбютавалі таленавіты Багдановіч і з ёй звязвалі найбольш плённы перыяд сваёй творчасці вялікі Купала. З "Нашай нівай" пастаянна супрацоўнічала больш за паўсотню аўтараў. Усе яны, дарэчы, пісалі ў газету бясплатна.

Легендарнае выданне перастала існаваць у 1915 годзе. У савецкай дзяржаве большасць "нашаніўцаў" трапілі пад рэпрэсіі і былі фізічна знішчаны, а сама газета атрымала ярлык "мелкобуржуазного издания".

Але ў 1991 годзе "Наша ніва" была адноўлена ў Вільні як штомесячнік, а з сакавіка 1996 года пачала выходзіць у Мінску штотыднёва. Яе заснавальнікі лічаць сябе пераемнікамі "нашаніўскіх" ідэй і традыцый пачатку XX стагоддзя. Галоўнай сярод іх па-ранейшаму застаецца ідэя нацыянальнай дзяржаўнасці і незалежнасці.

"Наша ніва" сёння з'яўляецца ўнікальным выданнем не толькі па тэматыцы, але і па стылю арганізацыі працы. У адрозненне ад іншых рэдакцый, у яе штаце няма ніводнага журналіста. Усе нумары складаюцца з лістоў, дапісаў, артыкулаў і карэспандэнцый, прысланых ці прынесеных у рэдакцыю. Фактычна гэта адно з самых інтэрактыўных выданняў у краіне. А яшчэ тут за гадзіну працы і галоўны рэдактар, і карэктар, і сакратар атрымліваюць аднолькавы заробак. Па словах галоўнага рэдактара "Нашай нівы" Андрэя Дынько, асноўнае, на чым будуецца ідэалогія газеты, - гэта пытанне нацыянальных інтарэсаў Беларусі.

Менавіта таму, з'яўляючыся ў цэлым рэзкакрытычнай да сённяшняй палітыкі ўрада і прэзідэнта, "Наша ніва" пры гэтым імкнецца падтрымліваць тое ў іх пачынаннях, што адпавядае нацыянальным інтарэсам дзяржавы. Газета ўхваляе ўсё станоўчае, што робіцца ў гаспадарцы і што вядзе да ўмацавання нацыянальнай эканомікі і ўзброеных сіл.

"Змаганне супраць Лукашэнкі - не галоўнае ў нашай дзейнасці. Мы імкнемся думаць катэгорыямі стагоддзяў," - сцвярджаюць цяперашнія "нашаніўцы". Яны перакананы, што якімі б ні былі вынікі сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў, які б ураджай бульбы ні быў сабраны восенню, Беларусь усё роўна будзе жыць. Таму трэба прывучаць лю-дзей у першую чаргу ганарыцца сваёй нацыяй і клапаціцца пра інтарэсы дзяржавы. Для гэтага проста неабходна фіксіраваць з'явы, якія ўяўляюць цікавасць для вечнасці.

Сам Дынько кажа, што ён проста імкнецца рабіць газету, нумары якой праз дваццаць год цікава б было чытаць яго сыну, і якую, год праз трыццаць, ён пажадаў бы ўзначаліць.

Невялікі тыраж газеты выдаўцоў не засмучае. Яны суцяшаюцца тым, што колькасць прыватных абвестак, лістоў і карэспандэнцый ад чытачоў з кожным годам няўхісна павялічваецца. У 1999 годзе "Наша ніва" абвясціла другі дзень кожнага месяца Днём без чужога слова. Яна прапанавала

 



сваім чытачам прынцыпова не ўжываць у гэты час іншых моў, акрамя беларускай. А пасля прысылаць у рэдакцыю свае ўражанні. Уражанні былі самыя разнастайныя: нехта хацеў выклікаць міліцыю, пачуўшы беларускую мову ў аптэцы, камусьці прапанавалі палячыцца, хтосьці паўгадзіны вымушаны быў патрабаваць, каб на яго пытанне яму таксама адказалі па-беларуску. Але галоўнае "Наша ніва" ўбачыла ў тым, што гэтая акцыя памножыла колькасць людзей, якія ў любых жыццёвых сітуацыях размаўляюць выключна на беларускай мове.

На пытанне, ці стане цяперашняя "Наша ніва", на яго думку, легендай беларускага друку ўжо XXI стагоддзя, Андрэй Дынько адказаў, што сярод яе аўтараў - людзі, з імёнамі якіх сёння ў свеце асацыюецца нацыянальная культура. Сусьветнавядомы Васіль Быкаў, яркая постаць сучаснай літаратуры Адам Глобус, першы палітычны зняволены за напісанне верша ў Беларусі Славамір Адамовіч, лепшыя майстры беларускай фатаграфіі Анатоль Кляшчук і Алена Адамчык... Таму праблема гістарычнай значнасці газеты ўжо вырашана.

А яшчэ, на думку Дынько, важна, што, пачытаўшы некалькі нумараў "Нашай нівы", любы чалавек зразумее, што беларуская культура - гэта ня толькі саламяныя капелюшы і песня "Цячэ вада ў ярок", а магутнейшы пласт сусветнай культуры, неад'емнай часткай якога з'яўляецца і сама газета "Наша ніва". **Вольга Анцыповіч** (Б. Час.)

**********************************************

# Зычлівая абыякавасьць

*Русіфікацыя дзейнасьці замежных прадстаўніцтваў у Беларусі*

Прыходзіць пару тыдняў таму ў «Нашу Ніву» электронны ліст зь менскага прадстаўніцтва буйное амэрыканскае фундацыі. Цытую:

*«Главному редактору газеты «Народная нива» Сергею Дубовцу. Приглашаем Вас принять участие в семинаре, посвященном вопросам... О своем опыте будут рассказывать...»* Ну, і гэтак далей.

Ня ведаю, што ў гэтым запрашэньні больш абсурднае: ці тое, што ягоная аўтарка ня ведае, як называецца адно з хіба што трох дзясяткаў незалежных выданьняў на ўсю краіну (хоць, перш чым паступіць у ПТВ, ці дзе там вучацца сакратаркі для гэткіх фундацый, мусіла вытрымаць іспыты за курс беларускае гісторыі і літаратуры, у якім гаворыцца пра першую беларускую газэту); ці тое, што супрацоўніца Фонду, абавязак якога — апекавацца незалежнай прэсай, ня ведае, хто ягоны галоўны рэдактар (а мусіла б, відаць, і дні нараджэньня гэтых рэдактараў памятаць); ці тое, што дасылае ў беларускамоўнае выданьне запрашэньні выключна па-расейску. Ну так, палітычная карэктнасьць відавочна прыдуманая для афраамэрыканцаў і інвалідаў, але ж не для гэтых калхозьнікаў-беларусаў!

Не сумняюся, што й сэмінар быў арганізаваны па-расейску. Нават гэтак, магчыма: лектары з адной з былых савецкіх рэспублік чыталі даклады па-ангельску, а перакладчык фундацыі перадаваў гэта па-расейску. Дзіва што я не хаджу на такія сэмінары. Нацыянальная гордасьць ды проста пачуцьцё здаровага сэнсу не дазваляе.

У рамках праграмы выданьня перакладаў з францускай, цынічна названай «Багдановіч», францускае пасольства выпусьціла дзьве брашуркі Дэрыды і Вэйна па-беларуску і ўжо з дваццаць розных выданьняў па-расейску. Традыцыя пайшла яшчэ ад першага аташэ па культуры францускае амбасады мэсье Талстоя, нашчадка ягамосьці графа Лява Мікалаевіча, які наўпрост — як і належыць францужу расейскага паходжаньня — адмаўляў існаваньне беларускай мовы й нацыі. Ну, дык жа бачылі вочкі, каго прызначалі!..

Ды што казаць, калі нават Польскі інстытут працуе ў Менску, лічы — па-расейску. Відаць гэта па праграмках ягоных імпрэзаў.

Прыкрасьці, прыкрасьці, прыкрасьці... Татальная русіфікацыя дзейнасьці замежных прадстаўніцтваў у Беларусі павялічвае пачуцьцё ізаляцыі. Міжволі думаеш: а мо насамрэч у беларусаў няма сапраўдных саюзьнікаў у сьвеце?

Амэрыканскае і польскае пасольствы — адзіныя, дзе ў першае дзесяцігодзьдзе беларускай незалежнасьці дыпляматы, прынамсі некаторыя зь іх, адчувалі сваім абавязкам вывучаць беларускую мову. І гэта было такім прыкладам для беларускае эліты.

Ад эўрапейцаў беларускамоўныя ўжо шмат не чакаюць, але, калі й на прыёме ў амэрыканскай амбасадзе сутыкаешся ўсё з той жа мовай «міжнацыянальных стасункаў» з вуснаў амэрыканскіх дыпляматаў, перакладчыкаў, беларускіх супрацоўнікаў, дык тут ужо проста ня ведаеш, куды падзецца. Не, думаеш, ня можа быць. Буш, Паўэл, Козак і Кунстатэр проста нічога ня ведаюць, гэта чыноўнікі ім "мяшаюць", не даюць, сабатуюць... І сьмех і грэх.

Падобная русіфікацыя дзейнасьці замежных прадстаўніцтваў у Менску дае карт-блянш нашым тутэйшым дыскрымінатарам.

Чаму ж супрацоўнікі многіх прадстаўніцтваў замежных фундацыяў, якія мусяць займацца прамоцыяй дэмакратыі ў Беларусі, не зважаюць на базавыя нацыянальныя і моўныя правы прынамсі 37% насельніцтва краіны? Чаму яны не пільнуюцца, каб справы іхных кантораў вяліся на дзьвюх мовах? (Хоць маглі б і толькі па-беларуску — беларуская дэмакратыя ад гэтага толькі ўмацавалася б.) Які, папраўдзе, давер можна заваяваць, зьвяртаючыся да абарыгенаў на мове каланізатараў?

Нядаўна натыкнуўся ў Інтэрнэце, а пасьля прачытаў і ў кіеўскай «Крытыцы» адозву ўкраінскай інтэлігенцыі да прэзыдэнта, прэм'ер-міністра, Вярхоўнае Рады ды Вярхоўнага Суду Ўкраіны з заклікам забясьпечыць мірнае і дэмакратычнае рашэньне палітычнага і маральнага крызысу, што апанаваў краіну. Гэты тэкст сьціпла называецца «Зваротам навукоўцаў і прафэсіяналаў». Вядомыя людзі выказваюць сваю пазыцыю і засьцерагаюць. Адозва падпісаная сотнямі вядомых людзей — украінскага паходжаньня і ўкраінцаў. Уразіла тое, колькі сярод украінцаў вучоных, уплывовых прафэсіяналаў. Прафэсары Гарвардзкага, Вашынгтонскага, Ратгерскага, Альбэрцкага, Калюмбійскага ўнівэрсытэтаў, супрацоўнікі і кіраўнікі дзясяткаў уплывовых дасьледчых і палітычных цэнтраў... І я падумаў: калі б такі зварот падпісвала беларуская інтэлігенцыя, хто пад ім мог бы падпісацца? Ня выйшлі зь беларускае эміграцыі прафэсары, ня выйшлі губэрнатары, ня выйшлі сэнатары... Ня выйшлі тыя, да каго сьвет прыслухоўваецца. Таму й не заўважаюць беларусаў. А ўкраінцаў заўважаюць. І вы ня знойдзеце ў Кіеве заходняга прадстаўніцтва, у якім вялі б справы па-расейску ці па-расейску зьвярталіся да журналіста ўкраінскамоўнае газэты.

Цяпер толькі ў Варшаве, кажуць, вучыцца 250 студэнтаў-уцекачоў зь Беларусі. На што яны навучацца, няясна пакуль. Аднак толькі інтэлектуальная сіла можа расплюшчыць зычліва-абыякаваму Захаду вочы на Беларусь. Інтэлектуальная сіла, якую трэба песьціць гадамі выхаваньня, штогадовымі інвэстыцыямі незалежнага беларускага грамадзтва і эміграцыі і культам веды і культуры. ***Барыс Тумар*** (Н. Н.)

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# Амэрыканскі дыплямат гаварыў па-беларуску

**Апошняя музычная імпрэза цыклю «Тры сустрэчы» Рыгора Барадуліна й Алеся Камоцкага адбылася ў менскім Чырвоным касьцёле 3 траўня. Сэнсацыяй імпрэзы стала прывітаньне Джона Кунстатэра, першага сакратара амбасады ЗША, на добрай беларускай мове.**

Дж.Кунстатэр гаварыў шчыра. Гэта ўзрушыла залю, што колькі разоў поўнілася доўгімі гучнымі воплескамі. Дж.Кунстатэр сказаў: «Шаноўнае спадарства! (Воплескі) Я замежны чалавек, я ганаруся тым, што наведаў гэты канцэрт блікучых зорак беларускае, а таму й эўрапейскае культуры». (Воплескі)

Р.Барадулін падзякаваў Дж.Кунстатэру: «Хоць нашая калхозная прапаганда гаворыць, што Амэрыка на нас дрэнны ўплыў мае, дык я думаю, што нашым кіраўнікам трэ было б павучыцца мовы ў прадстаўніка вялікіх Злучаных Штатаў Амэрыкі».

Апошняя сустрэча музычна-паэтычнага цыклю дуэту Р.Барадуліна й А.Камоцкага адбылася з удзелам курдзкага паэта Ганада Чарказяна, занесенага долею ў Беларусь... Перакладзеная Р.Барадуліным у беларускую, паэзія й проза Г. Чарказяна часта выдаецца ў менскіх выдавецтвах. Часьцей нават за творы перакладніка.

«Тры сустрэчы» Р.Барадуліна й А.Камоцкага дадуць плён у выглядзе новых кампакт-дыскаў і музычных альбомаў, а старыя будуць дапоўненыя новымі творамі. Альбомы «Псальмы», «Асяніна», «Зорка спагады», «Баляды» й «Гойкнуў баравік» можна прыдбаць у распаўсюднікаў...

---

# Грыгоры Яўлінскі: "У выбары беларускага кандыдата Крамлю памагатыя не патрэбны"

Лідэр расейскага "Яблока" Грыгоры Яўлінскі не выключае, што Крэмль пажадае замяніць Лукашэнку на восеньскіх выбарах у Беларусі - з тым, каб паставіць больш паслухмянага й менш уплывовага палітыка. Лідэр расейскай партыі раіць беларускім кандыдатам, якія шукаюць падтрымкі ў Маскве, больш разьлічваць на свае сілы.

**RR:** - Ці можа Аляксандар Лукашэнка разьлічваць на падтрымку Крамля ў часе прэзыдэнцкіх выбараў?

**Г.Я.:** - Ня ведаю. Цалкам магчыма, што падбяруць каго-небудзь іншага. Я мяркую, што Пуцін можа пажадаць каго-небудзь іншага. Думаю, што спробы замяніць Лукашэнку цалкам верагодныя. І такое можа здарыцца.

**RR:** - Якія ў Крамля будуць крытэры адбору?

**Г.Я.:** - Паслухмянасьць, лаяльнасьць. Можа быць, меншая ўплывовасьць.

**RR:** - Вы мяркуеце, што Лукашэнка недастаткова паслухмяны ?

**Г.Я.:** - Ён вельмі ўплывовы, і можа раптам пажадаць быць самастойным. А гэта нікога ў Крамлі не здавальняе. Ну, раптам. Гэта, натуральна, не азначае, што ён стане дэмакратам, альбо лібэралам. Не. Але цалкам верагодна, што пасьля выбараў ён пажадае стаць самастойным. Бо ён сапраўды мае аўтарытэт, ён сапраўды мае ў Беларусі падтрымку. Мяркую, што ў яго падтрымка большая, чым усіх астатніх. У тым ліку, тых кандыдатаў, якія шукаюць падтрымкі ў Маскве.

**RR:** - Ці ёсьць у тых кандыдатаў, якія аб'ядналіся ў пяцёрку, магчымасьць займець падтрымку "Яблока"?

**Г.Я.:** - Так. Магчыма, што мы падтрымаем кагосьці з гэтых кандыдатаў. Калі яны сапраўды будуць дэмакратычна арыентаваныя. Мы вывучаем гэтае пытаньне. Сустрэчы, якія адбываліся ў Маскве, і былі прысьвечаны гэтай праблематыцы. Аднак пакуль мы нікому не сказалі "Так". Мы вывучаем і праграмы, і пазыцыі, і палітычныя біяграфіі гэтых людзей.

**RR:** - Беларускія кандыдаты пакуль шукаюць падтрымку ў правых сілаў расейскага палітычнага спэктру. Якія ў расейскіх правых ёсьць рычагі ўплыву (калі яны ўвогуле ёсьць) на мэханізм прыняцьця рашэньня ў Крамлі?

**Г.Я.:** - Вы ведаеце, што Саюз Правых Сілаў (СПС) - вельмі блізкая да Крамля партыя. Яны маюць магчымасьць наладзіць адпаведныя кансультацыі, у тым ліку, з выхадам беларускіх кандыдатаў на Крэмль. Аднак я мяркую, што Крамлю такая дапамога й пасярэдніцтва расейскіх правых ня патрэбныя. Крэмль сам вырашыць гэтыя пытаньні. Што да "Яблока", то ў нас асаблівая пазыцыя. Мы зьяўляемся незалежнай дэмакратычнай партыяй. І наш выбар кандыдата дыктуецца ня толькі прынцыпамі, падыходамі, але таксама палітычнай рэальнасьцю, якая складаецца ў Беларусі.

**RR:** - А наколькі ўвогуле расейскія палітыкі зацікаўленыя ў выніках беларускіх выбараў? На якім месцы для Вас стаіць гэтая праблема?

**Г.Я.:** - Я стаўлюся да Беларусі як да самастойнай сувэрэннай дзяржавы. Адначасова лічу гэтую дзяржаву, людзей, якія там жывуць, вельмі блізкімі да маёй гісторыі, маёй сям'і, майго жыцьця. Я прытрымліваюся гэткага погляду: калі беларусы - мае браты, то ў іх ня трэба адбіраць пашпарт. Іншымі словамі: ня трэба іх пазбаўляць незалежнасьці й дзяржаўнасьці. Ня трэба беларусаў прыніжаць. Я не прыхільнік ідэі аншлюсу. У гэтым кантэксце мне хацелася б, каб Беларусь была самастойнай краінай, якая магла б вырашаць свае чарнобыльскія праблемы. Каб Беларусь пачувала сябе эўрапейскай краінай. Я зь велічэзнай павагай стаўлюся да беларусаў. Беларусаў я ведаю. Я сам вырас на заходняй Украіне. Я вельмі часта бываў у Беларусі. Шмат бываў у Берасьці. Я кажу пра беларусаў самыя добрыя словы, зыходзячы са свайго жыцьцёвага досьведу. І натуральна: мы як партыя зацікаўлены ў стабільным, сяброўскім, дэмакратычным, адкрытым рэжыме ў Беларусі.

**RR:** - Апошнія крокі Пуціна сьведчаць пра тое, што Крэмль распачынае так званы "плян зьбіраньня былых савецкіх рэспублік". Наколькі тут можа быць карысная мадэль інтэграцыі, прапанаваная ў свой час Лукашэнкам?

**Г.Я.:** - Беларуская мадэль інтэграцыі - гэта адсутнасьць усялякай мадэлі. Ніякай сутнаснай інтэграцыі не было. У свой час мы падрыхтавалі праект эканамічнай дамовы, накіраванай намі Лукашэнку й Ельцыну. І я па-ранейшаму цяпер лічу, што трэба было пачынаць не з палітычных бессэнсоўных надбудоваў, але з эканамічных стасункаў і сувязяў. Гэта натуральна запатрабавала б актыўнага разьвіцьця рынкавых рэформаў у Беларусі.

**RR:** - Крамлю апошнія гады даводзіцца выступаць у ня вельмі прыемнай ролі адваката Лукашэнкі на Захадзе. На колькі эфэктыўным можа быць ціск на Крэмль праз Захад - з тым, каб на пэрыяд беларускіх выбараў Масква заняла хаця б нэўтральную пазыцыю?

**Г.Я.:** - Я ня думаю, што гэта магчыма. Пра які ціск Вы ўвогуле гаворыце? Усе прыяжджаюць да нас піць піва, хадзіць у тэатар за тры тыдні да выбараў, сустракаць Каляды. Пра якую пазыцыю Захаду вы гаворыце? Новая Адміністрацыя Белага Дому будзе дамаўляцца з Крамлём -. гэта ўжо бачна. Будуць рабіць усё разам. Я ня думаю, што Захад для вас - істотны чыньнік.

(Радыё Рацыя)

 

# "Вырваныя бачыны" - праўда пра СБМ

**Галіна Абакунчык** (Р. Р.)

У бібліятычнай сэрыі часопіса "Беларускі гістарычны агляд" днямі выйшла кніга Лявона Юрэвіча "Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу Беларускае Моладзі". СБМ – беларуская патрыятычная моладзевая арганізацыя, якая дзейнічала на тэрыторыі Беларусі ў гады нямецкай акупацыі. Зьведаўшы бальшавіцкія рэпрэсіі й прыгнёт, гвалтоўную русіфікацыю, тысячы беларускіх юнакоў і дзяўчат сталі тады пад сьцягі адраджэньня нацыянальнай ідэі. За свой патрыятызм, за любоў да Бацькаўшчыны СБМаўцы заплацілі хто даўгімі гадамі зьняволеньня ў сталінскіх лягерох, а хто й уласным жыцьцём.

І да сёньня, як і ў часы савецкага бальшавізму, лідэраў і шэраговых удзельнікаў СБМ улады называюць фашыстамі й калябарантамі. Кніга "Вырваныя бачыны" - адна зь першых спробаў у Беларусі праўдзіва распавесьці пра Саюз Беларускае Моладзі, зьліквідаваць белыя плямы ў гісторыі апошняй вайны. Карэспандэнт RR гутарыць з рэдактарам выданьня гісторыкам Алегам Гардзіенкам.

**А.Г.:** - Я працую ў Інстытуце гісторыі й займаюся палітычным аспэктам пэрыяду Другой Сусьветнай вайны, у тым ліку й СБМ. Для мяне гэтая тэма надзвычай цікавая, бо пакуль у гістрычнай навуцы пануе выразны падзел на чорнае й белае: альбо СБМ малююць толькі сьветлымі, альбо толькі чорнымі фарбамі. Чаму "Вырваныя бачыны"? Таму што нават ва ўспамінах саміх беларускіх патрыётаў кіраўнікі СБМ паўставалі адмоўнымі гістарычнымі пэрсанажамі, а шэраговыя сябры арганізацыі - станоўчымі. Але ж гэты падзел - нейкі страх альбо комплекс віны, навязаны ім пасьляваеннай савецкай ідэалёгіяй. Насамрэч СБМаўцы нічога дрэннага не рабілі, а наадварот - ва ўмовах нямецкай акупацыі маральна змагаліся за Беларусь. І кніга Лявона Юрэвіча ліквідуе гэты прабел. Тут надрукаваныя ўспаміны Міколы Ганька пра ягонага брата Міхася Ганька, які быў кіраўніком юнакоў у СБМ. Адзін з разьдзелаў выданьня зьмяшчае лісты Надзеі Абрамавай, якая была лідэрам дзявочай часткі арганізацыі. Цалкам




зьнішчальна Міхася Ганька падавала пасьляваенная савецкая гістарычная навука. Гэткі ж лёс напаткаў і Надзею Абрамаву. Але Лявон Юрэвіч і выдаўцы кнігі даказалі, што неабходна па-іншаму паглядзець на Саюз Беларускай Моладзі, на кіраўніцтва арганізацыі: што й як яны рабілі, якія ў іх былі перакананьні, і што яны ня здрадзілі сваім прынцыпам і пасьля 1944 году, пасьля адыходу зь Беларусі.

**RR:** - Кніга выйшла накладам 500 асобнікаў. Дзе й як яна будзе распаўсюджвацца, каб яе змагла прачытаць найбольшая колькасьць чытачоў?

**А. Г.:** - Кніга разьлічаная й на навукоўцаў, і на паспалітага чытача, які цікавіцца гісторыяй СБМ. Мы распаўсюджваем выданьне праз "Акадэмкнігу", праз ТБМ і БНФ. Распаўсюджвалі б і праз "Белкнігу", але гэтая дзяржаўная арганізацыя працуе толькі зь юрыдычнымі асобамі, якія маюць асабісты рахунак. Таму з гэтым манапалістам мы пакуль не супрацоўнічаем. Аднак нашая кніга цалкам легальная. Праблем з рэалізацыяй альбо перахопам на мяжы, калі яе вывозіць у Польшчу, - ня мусіць быць. Таму што ў Нацыянальнай бібліятэцы пастаўлены штамп, што кніга зарэгістраваная ў дзяржаўным рэестры выданьняў.

**RR:** - Такім чынам варта спадзявацца, што аднойчы гэтая кніга будзе надрукаваная ў дзяржаўным выдавецтве?

**А.Г.:** - Вельмі доўга давядзецца чакаць.

**RR:** - Чаму?

**А.Г.:** - Таму што ў нашай дзяржаве, каб нешта пра Кіеўскую Русь выдавалася, то з гэтым бы праблемаў не было. А калі праўда пра Беларусь, то на гэта дзяржава накладае вэта. У нашай краіне быў пэўны лібэральны пэрыяд - 1991-1995 гады, калі можна было спадзявацца, што такія кнігі будуць выдадзеныя ў дзяржаўным друку. Зараз у гістрычнай навуцы ідзе нават поўнае вяртаньне нават не ў 1980-я гады, а ў 1960-70-я. Гэтыя кнігі выбіваюцца з агульнага ідэалягічнага напрамку. Здаецца ў "Народнай газэце" ў 2000 годзе быў надрукаваны опус аднаго "гісторыка", які назваў сябраў СБМ "эсбэмуінамі" й "эсбэмуёвінамі". Такая абраза на вышэйшым дзяржаўным узроўні падвяла рысу пад сваім стаўленьнем. Калі ўзьнікаюць пытаньні са Слуцкім збройным чынам, калі шальмуецца БНР, калі тэлекадры паказваюць, што бел-чырвона-белы сьцяг - гэта фашысцкі сьцяг, а пасьля гербу "Пагоня" паказваюць маршы паліцыі, то вяртаньня на нармалёвыя пазыцыі ў такой дзяржаве ня будзе. Бо гэта выбіваецца з палітычнай канцэпцыі ў рэчышчы сяброўства з Расеяй, бо СБМаўцы былі за Беларусь, а для ўладаў гэта азначае, што супраць Расеі. І нават з гэтых пазыцыяў такая кніга дзяржаве не патрэбная, таму, відаць, будуць пэўныя захады напісаць некалькі разгромных рэцэнзіяў на гэтую кнігу, каб маральна зьнішчыць яе аўтараў і выдаўцоў.

**RR:** - На вашую думку, такі факт у гісторыі Беларусі, як стварэньне СБМ: ён сьведчыць за эўрапейскія, цывілізаваныя гістарычныя працэсы, якія адбываліся ў нашай краіне, альбо гэта тое, за што заўжды папракалі беларусаў, мауляў, рахманыя, пакорлівыя й гатовыя падпарадкавацца любой уладзе. Ізноў жа калябарацыя…

**А.Г.:** - Стварэньне СБМ ішло ў рэчышчы агульнаэўрапейскі, так адбывалася і ў Францыі, і ў Нямеччыне. А пра рахманасьць, мяркую, ня можна казаць. СБМ меў найбольш разьвітыя структуры ў Заходняй Беларусі, дзе ў 1940-я гады людзі звыкліся з акупацыямі: польскай, савецкай, нямецкай. Для іх акупацыя была, як улада ў горадзе, якая зьбірае падаткі й сочыць за парадкам. А тут была магчымасьць ладзіць нармальнае беларускае жыцьцё, выхоўваць нацыянальнасьвядомую моладзь, ствараць новы падмурак беларускасьці. І беларускім дзеячам урэшце было ўсё роўна, дзе ствараць нацыянальныя суполкі. Беларускі СБМ параўноўваюць зь нямецкім гітлер'югендам. Але ж можна параўнаць гітлер'югэнд з савецкай піянэрыяй альбо піянэрыю з СБМ. Але ж галоўнае было ў тым, што беларусы па-свойму глядзелі на СБМ і перасьледавалі свае інтарэсы. Мы мусім глядзець зь беларускіх нацыянальных пазыцыяў - што нам было выгадна ў часы вайны. Мы яшчэ з часоў савецкай гістарычнай школы прызвычаіліся чамусьці азірацца на Маскву. Я зайдрошчу беластоцкім гісторыкам, якія глядзяць на тыя падзеі бязь нейкіх стэрэатыпаў: калі мы пішам, што, маўляў, быў такі час, то нібы апраўдваемся за штосьці, а на Беласточчыне гавораць, што падчас вайны той ці той працаваў у беларускім школьніцтве й усё. Гэта значыць, што чалавек працаваў на беларушчыну й болей нічога ня трэба тлумачыць. Так, некаму цяжка, напэўна, прызнаць, што інтарэсы СБМаўцаў розьніліся ад інтарэсаў Масквы, партызанаў ці падпольшчыкаў. Але ж яны розьніліся й ад інтарэсаў Бэрліну таксама.

**RR:** - Гэтая кніга - спроба напісаць тыя старонкі гісторыі, якія называюць "белымі плямамі". Аднак яшчэ засталіся сьведкі падзеяў тых часоў, самі сябры СБМ, якія прайшлі лягеры й вязьніцы. Дык ці варта спадзявацца, што аднойчы зьвіцца кніга зь іх сьведчаньнямі пра СБМ?

**А.Г.:** - Гэта вельмі складанае пытаньне, бо Лявон апавядаў, што нават у іх за акіянам людзі казалі яму - за што ты бярэшся? Нават людзі, якія жывуць у Нью-Ёрку, Нью-Джэрзі, нават там баяцца кнігі пра СБМ. Бо прайшло амаль 60 гадоў, але яшчэ не прыйшоў час для такога выданьня. Паўтаруся, што напачатку 90 - гадоў такая кніга магла быць . Цяпер у гістарычнай навуцы ізноў пануе страх. А раптам, калі выйдуць гэтыя ўспаміны хтосьці прыйдзе й спытае: што ты рабіў у 1943 годзе? А людзі якія зьведалі лягеры - усе СБМаўцы, якія засталіся ў Беларусі й атрымалі дзясяткі гадоў лягероў, - памятаюць і ня хочуць раз зьведаць таго, што зь імі рабілі бальшавікі. Цяпер такая кніга нерэальная. А час ідзе. Прайшло амаль 57 гадоў з часу вызваленьня Беларусі ад нацыстаў і многія сябры СБМ памерлі й паміраюць Такія кнігі пра жывых сьведкаў рэальныя толькі гадоў празь пяць ці дзесяць альбо пасьля восені 2001 году.

# ХТО ПАЕХАЎ, А ХТО ПРЫЕХАЎ…

Адна з новых тэндэнцый у міграцыйных працэсах, што адбываюцца на тэрыторыі Беларусі, як паведамілі ў Камітэце па міграцыі пры Міністэрстве працы Беларусі, — гэта тое, што наша краіна мае цяпер дадатнае эміграцыйнае сальда. Беларусь прыняла ў перыяд з 1992 па 1999 гады 668 тысяч чалавек, а выехала з краіны 495 тысяч. Не лішне пацікавіцца, хто ж гэта прыехаў да нас на сталае жыхарства? «У пераважнай большасці з той масы, што прыняла на працягу апошняга дзесяцігоддзя наша краіна — гэта не беларусы, — кажа Галіна Сяргеева, кандыдат гістарычных навук, супрацоўніца Нацыянальнай акадэміі навук. — Сярод прыехаўшых людзі розных нацыянальнасцяў, многа рускіх і ўкраінцаў, нямала бежанцаў з «гарачых кропак», і пры цяперашняй дэмаграфічнай сітуацыі ў Беларусі — мы ведаем, што з 1996 года ў нас не павялічваецца насельніцтва, а наадварот, кожны год зменшаецца — гэта даволі небяспечная сітуацыя. У тым плане, што доля карэннага насельніцтва пры такіх тэндэнцыях непазбежна будзе змяншацца».

Вядома, вярталіся на Бацькаўшчыну і беларусы. У 1990–1991 гадах — 75 тысяч чалавек, а ў 1992–1999 — яшчэ 188 тысяч. Гэта прыкладна 10–11 працэнтаў з той колькасці нашых суайчыннікаў, што аселі на постсавецкай прасторы. Як жа сустрэлі іх на радзіме, як паклапаціліся аб збіранні нацыі кіраўнікі дзяржавы? Ды ніяк. Людзі апынуліся ў жахлівай сітуацыі: без жылля, сродкаў на існаванне. Дзяржава не дбала ні аб іх працаўладкаванні, ні аб набыцці крэдыту на жыллёвае будаўніцтва. Многія проста вымушаны былі пасяліцца ў Гомельскім і Магілёўскім раёнах, забруджаных радыяцыяй.

Закона аб рэпатрыяцыі, як можна здагадвацца, пакуль што не прадбачыцца. Кажуць, што ў дзяржавы няма на гэта сродкаў. Знаходзяцца ж яны на іншыя, нават і не на такія важныя справы. Польшча, напрыклад, якая сёлета прыняла закон аб рэпатрыяцыі, абмежавала пакуль што кантынгент тых, каму будзе аказана дзяржаўная дапамога, — гэта палякі, якія пражываюць у азіяцкім рэгіёне былога СССР. У нас жа пра гэта нават і гаворкі не вядзецца, бо збіранне, умацаванне і кансалідацыя нацыі ніяк не ўваходзяць у пералік прыярытэтных задач дзяржавы. Усё робіцца наадварот: раскалоць, сутыкнуць ілбамі, стварыць такія ўмовы для жыцця, каб разбегліся самі па свеце… Пэўна, няма зараз на Беларусі чалавека, які не хацеў бы тым ці іншым шляхам выехаць за мяжу: на пастаяннае жыхарства ці падзарабіць грошай. Калі ў пачатку 90-х гадоў асноўным кантынгентам выязджаючых на пастаяннае месца жыхарства за мяжу былі яўрэі, то ўжо да сярэдзіны 90-х іх шэрагі значна папоўнілі беларусы. А рэзкі рост колькасці фірмаў, што прапануюць іміграцыю ў ЗША, Канаду, Новую Зеландыю і Аргенціну, сведчыць, што жадаючых выехаць з Беларусі становіцца ўсё больш. І каб у людзей былі неабходныя для гэтага сродкі, то значная частка насельніцтва, напэўна, ужо выбралася б адсюль. З 1993 па 1997 гады Беларусь пакінулі ці выехалі на працу па кантракту 220 перспектыўных спартсменаў і больш за 100 трэнераў. Пакідаюць краіну разам са сваімі капіталамі прадпрымальнікі. Яны тлумачаць свой выезд неспрыяльнымі падатковымі і інвестыцыйнымі ўмовамі гаспадарання. Так, толькі на працягу 1997 года дэпартамент эміграцыі МУС Чэхіі выдаў візы на пастаяннае жыхарства некальком сотням беларускіх бізнесменаў, якія перанеслі сваю дзейнасць на тэрыторыю Чэшскай Рэспублікі. Незалежныя эксперты лічаць, што напрыканцы 1998 года больш за 30 тысяч грамадзян Беларусі вялі свой бізнес у Расіі, ва Украіне, у Польшчы, Чэхіі, Прыбалтыцы, працуючы аб'ектыўна на павышэнне ўзроўню жыцця ў гэтых дзяржавах. Але не ў сваёй.

Пэўнае, але далёка не поўнае, ўяўленне аб памерах працоўнай эміграцыі даюць лічбы тых, хто зарэгістраваў свае кантракты ў Міністэрстве працы: за межамі Беларусі ў 1994 — 1314 асоб, у 1995 — 1692, у 1996 — 1894, у 1997 — 3226, у 1998 — 3692 асобы. Па неафіцыйных ацэнках, цяпер за межамі Беларусі працуюць да 100 тысяч жыхароў краіны. Значная частка іх — так званыя нелегалы. Гэта самая неабароненая частка нашай эміграцыі за мяжой. У расійскіх сродках масавай інфармацыі, прынамсі, неаднойчы адзначалася, што ненатуральна танныя

беларускія рабочыя на нелегальным рынку працы Расіі і ненатуральна танныя беларускія тавары на маскоўскіх рынках даўно ўжо служаць неабвержным доказам цяжкай хваробы беларускай эканомікі. Па дадзеных апытання, праведзенага Інстытутам сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі сумесна з Дзяржаўнай міграцыйнай службай, каля 300 навукоўцаў і выкладчыкаў ВНУ (з іх амаль палова дактары і кандыдаты навук) выехалі ў 1991–1995 гадах у ЗША (38%), Ізраіль (32%), Расію (10%), Германію (7%), Канаду (3%). У другой палове 90-х лічба гэта вырасла ўдвая.

У ЗША пражываюць спевакі А. Кашапараў, В. Пархоменка, А. Казак, А. Забара, акцёры Р. Харык, Р. Маленчанка, А. Караблёў, піяніст Л. Кузьмін, гітарыст А. Растопчын, кампазітар Д. Яўтуховіч, мастак Ю. Пучынскі, у Італіі – оперная спявачка М. Гулегіна, у Францыі — мастакі Б. Забораў і М. Паўлоўскі, спявак А. Валодась, скрыпачка Л. Колас, у Германіі — музыкант А. Бадзьяраў, скрыпач А. Крамараў, у Англіі — мастак В. Мартынчык, у Чэхіі — паэт С. Сокалаў-Воюш, у Ізраілі — музыкант Л. Тышко...

Адток за мяжу «залатога» генафонду нацыі працягваецца. Чаго варты выпадак, калі група беларускіх студэнтаў (цалкам 30 чалавек) не вярнулася дамоў са стажыроўкі ў ЗША. Яны пісалі бацькам, што не бачаць сваёй будучыні ў краіне, павернутай тварам у мінулае.

«Наша краіна першай на постсавецкай прасторы займела палітычную эміграцыю ў сярэдзіне 90-х гадоў. І звязана гэта перш за ўсё — лічыць Г. Сяргеева, — з непрыняццем пэўнай часткай грамадства таго антыдэмакратычнага рэжыму і палітычнага курсу, что ажыццяўляецца кіраўніцтвам краіны. Сотні маладых, адукаваных людзей просяць палітычнага прытулку ў розных замежных краінах — Бельгіі, Чэхіі, ЗША, Польшчы».

Сучасная беларуская палітычная эміграцыя стварае свае асяродкі ў замежжы. Яна гуртуецца вокал кааліцыі беларускіх арганізацый у абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі, якая аб'ядноўвае больш за 10 арганізацый. Нядаўна створаны беларуска-бельгійскі цэнтр, у Вільні працуе Віленская грамадская ініцыятыва «Дэмакратыя дзеля Беларусі». Там жа сёлета пачала дзейнічаць радыёстанцыя «Балтыйскія хвалі» з уздзелам беларусаў. У Варшаве выходзяць «Беларускія ведамасці», працуе беларуская радыёстанцыя «Рацыя».

Крыўдна, канешне, канстатаваць сумны факт; што твая краіна ў новым тысячагоддзі па многіх параметрах выпадае з еўрапейскага кантэксту. Што праўляецца ўстойлівая тэндэнцыя росту беларускай дыяспары за кошт найбольш здольных, творчых, перспектыўных, прагматычных, высокапрафесійных выхадцаў з Беларусі.

==========================================

## ТБМ набіраецца аптымізму

**Кірыла ПАЗЬНЯК** (Н. С.)

*20-га траўня, у сталічным Доме літаратара прайшоў сёмы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.*

Сходы ўтворанага ў 1989 годзе ТБМ заўсёды выклікаюць досыць вялікую цікавасць, бо яно ёсць адной з самых буйных грамадскіх арганізацыяў у Беларусі (больш за 9 тысячаў сябраў), а моўная сітуацыя ў краіне застаецца заняпаднай.

Не стаў выключэннем і гэты з'езд. Апрача дзвюх сотняў дэлегатаў амаль з большасці рэгіёнаў Беларусі, удзел у ім узяло багата самых розных гасцей. Ад дзеячаў культуры да палітыкаў. Многія з іх у розны час сталі сябрамі Таварыства беларускай мовы. 20 траўня ў зале Дома літаратара, як і на іншых з'ездах арганізацыі, звыкла было бачыць багата пісьменнікаў: Уладзімір Някляеў, Вольга Іпатава, Кастусь Тарасаў, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, Генадзь Бураўкін і Ніл Гілевіч, першы і другі старшыні ТБМ. Дарэчы, трэці па ліку старшыня ТБМ Алег Трусаў 20 траўня быў пераабраны яшчэ на адзін тэрмін.

На з'ездзе прысутнічалі таксама кіраўнікі роднасных Таварыству беларускай мовы арганізацыяў – Алесь Лозка ад Таварыства беларускай школы і Радзім Гарэцкі ад Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Не абмінулі сваёй увагай з'езд і палітыкі. Ад КХП-БНФ быў зачытаны вітальны ліст ад Зянона Пазьняка, Аляксей Кароль вітаў ТБМаўцаў ад Сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), Вінцук Вячорка – ад БНФ. Ён, у прыватнасці, назваў Таварыства беларускай мовы за ягоную актыўную дзейнасць у справе беларусізацыі «адным з беларускіх шчупакоў, якія трохі ганяюць імперскага карася». Да гэтых палітыкаў далучыліся мажлівыя кандыдаты на прэзідэнта ад апазіцыі. Сямён Домаш, якога ў гэты дзень не было ў Беларусі, перадаў свае вітанні лістом, а Павел Казлоўскі і Міхаіл Чыгір прамаўлялі ў Доме літаратара нажывую. Такая ўвага не дзіўная. Нядаўна ТБМ звярнулася да патэнцыйных кандыдатаў на прэзідэнцтва з заклікам не толькі ўжываць у сваёй передвыбарнай кампаніі беларускую мову, але і гаварыць пра ейныя праблемы і шляхі вырашэння. Прыкладам, пра неабходнасць стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта з беларускамоўным выкладаннем усіх дысцыплінаў (у падтрымку гэтай ідэі ТБМ сабрала ўжо 50 тысячаў подпісаў грамадзянаў). М.Чыгір у прамове запэўніў, што «змены ў стаўленні да беларускай мовы могуць адбыцца сёлета». Прычым, хто б ні стаў прэзідэнтам. Натуральна, выключаючы Лукашэнку.

Яркімі і трохі нечаканымі эпізодамі на з'ездзе ў часе прамоваў сталі выступы прадстаўніка Федэрацыі анархістаў Беларусі і асабліва намесніка главы пасольскай місіі ЗША Джона Кунстатара. Амерыканец здзівіў усіх выдатнай беларускай мовай, прычым у варыянце «тарашкевіцы». Прадстаўнік амерыканскай амбасады казаў пра тое, што беларусам ёсць усе шанцы, каб зрабіць існаванне і ўжытак беларускай мовы паўнавартасным і маштабным. Пры гэтым ён згадаў пра прыклад чэхаў, якія адрадзілі сваю мову са стану, шматкроць горшага за тое, што зараз робіцца з беларускай мовай.

Потым многія паўтаралі, што калі ўжо амерыканцы гавораць па-беларуску, то тады ў беларускай мовы лёс будзе ўсё ж такі шчаслівы. І наогул гэты з'езд ТБМ адрозніваўся ад папярэдніх тым, што гэтым разам тут панаваў аптымістычны настрой, месцамі нават занадта. Не, пра недастатковы статус мовы тытульнай нацыі і пра ўпартае ігнараванне беларускай мовы чыноўнікамі па начальніцкім прыкладзе А.Лукашэнкі гаварылася. Аднак абышлося без плачу і жальбаў. І правільна, бо прасіць у цяперашняй улады – справа наколькі марная, настолькі і ганебная. Можна адно што патрабаваць.

Учора дзяржава яшчэ раз выявіла сваё стаўленне да ТБМ і беларускай мовы. Запрашэнні ўзяць удзел у з'ездзе былі дасланыя ў два дзесяткі разнастайных дзяржаўных органаў. 20 траўня ў Дом літаратура не прыйшлі фактычна ніадкуль (шэраговыя прадстаўнікі Савета міністраў не ў лік). Запрошаныя Латыпаў, Стражаў, Мясніковіч, Падгайны, Хвастоў і іншыя не з'явіліся. Як кажуць, без каментарыяў. Можна зрабіць высновы, што Стратэгія развіцця беларускай мовы на 21 стагоддзе, прынятая на з'ездзе, улады зусім не цікавіць, бо яна ёй проста не патрэбная.

****************************

## Першым гледачом фільма быў Лукашэнка, другім — слонімцы

**Аб гэтым сказаў рэжысёр фільма "У жніўні 44-га" народны артыст Беларусі Міхаіл Пташук на сустрэчы, якая адбылася ў слонімскім кінатэатры "Мір" у суботу, 28 красавіка.**

Перад пачаткам фільма Міхаіл Пташук падзякаваў кіраўніцтва і жыхароў горада Слоніма за дапамогу, аказаную пры здымках фільма. У сваім выступленні рэжысёр сказаў, што фільм у Мінску пачне дэманстравацца толькі з 6 траўня, а 4 траўня ў Маскве, у кінатэатры імя Пушкіна, яго паглядзіць прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін.

— У Слоніме мы амаль поўнасцю знялі гэты фільм, але свайго горада вы не пазнаеце,— адразу прызнаўся слонімцам Міхаіл Пташук. *Далей з яго вуснаў ліўся сум па Савецкім Саюзе, адмоўна выказваўся рэжысёр у адрас амерыканскага кіно.*

Кінафільм "У жніўні 44-га"— антыбеларускі фільм. Ці не лепш было б рэжысёру за гэтыя ж грошы зняць фільм пра Вітаўта, Рагнеду, Касцюшку, Каліноўскага, як гэта зрабілі, напрыклад, палякі, ці робіць Мікіта Міхалкоў у Расіі...



ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Моцна просім Вас не забывацца перасляць АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты!..

## Р. Барадулін: "Саюз пісьменьнікаў - гэта ўтварэньне савецкае"

**Галіна Жарко**

Пісьменьнікі краіны зьбіраюцца на свой зьезд. Саюз беларускіх пісьменьнікаў цяпер налічвае 520 чалавек. "Мы прымаем усіх, быў бы талент", - сказала ў адным са сваіх выступаў Вольга Іпатава, якая цяпер выконвае абавязкі старшыні пісьменьніцкага Саюзу. А што аб'ядноўвае такую колькасьць беларускіх літаратараў? Яны згуртаваліся вакол нейкае ідэі ці гэта проста цэхавая салідарнасьць? Я паспрабавала высьветліць гэтыя пытаньні ў народнага пісьменьніка Рыгора Барадуліна.

Сёлета ў лютым на рэспубліканскай нарадзе "Аб мерах па рашэньні праблемаў разьвіцьця культуры ды мастацтва" Вольга Іпатава, якая выконвае абавязкі старшыні Саюзу пісьменьнікаў, гаварыла пра тое, што яна павінна "ўносіць прапановы для дапамогі нашым занядбаным творцам". Тым больш, што Саюз - "стары": амаль палове сябраў больш за 60 гадоў. Такім чынам, асноўную частку Саюзу беларускіх пісьменьнікаў складаюць людзі, выхаваныя ў савецкія часы й па савецкіх законах. Зрэшты, мэты перад гэтай масавай творчай арганізацыяй ставіліся адпаведныя - ідэйнае выхаваньне савецкіх людзей.

Р.Барадулін: - Я заўсёды гаварыў, што Саюз пісьменьнікаў - гэта ўтварэньне савецкае Мастакоў, кампазытараў - усіх у творчыя саюзы, каб імі кіраваць. Гэта страшэнна масавая арганізацыя, а там, дзе масавасьць... Яе можна прыраўняць да савецкага прафсаюзу.

Ранейшы Саюз пісьменьнікаў Рыгор Барадулін параўнаў зь вельмі густым сітам. Калі творца праз гэтае сіта праходзіў, ён меў магчымасьць друкавацца, атрымаць кватэру, карыстацца пуцёўкамі ў Дом творчасьці... Зараз нічога гэтага няма. Зараз пісьменьнікі жывуць па прынцыпе - ратуйся хто як можа. Даходзіць да таго, паскардзіўся Рыгор Барадулін, што сябру Саюзу пісьменьнікаў ня могуць наладзіць разьвітаньне, калі той памрэ, бо будынак не належыць Саюзу пісьменьнікаў.

Дом літаратараў перададзены цяпер на балянс Управы справамі прэзыдэнта, сапраўды беларускія пісьменьнікі тут болей не гаспадары, хоць некалі й пабудавалі яго на свае патрэбы. На той самай нарадзе па праблемах культуры, рэагуючы на выступ Вольгі Іпатавай, Аляксандар Лукашэнка ўнёс, здаецца, поўную яснасьць у гэтае пытаньне. У адказ на нараканьні пісьменьнікаў, у якіх адабралі ўласнасьць, ён прапанаваў ім лепш запытацца ў сваіх калегаў: чым яны там займаліся да таго, як будынак перадалі Адміністрацыі прэзыдэнта? І сам адказаў: у Доме літаратараў, паводле падлікаў Аляксандра Лукашэнкі, праводзілася 85 адсоткаў антыдзяржаўных імпрэзаў. Зрэшты, кажуць жа, што "поэт в Росии больше, чем поэт", дык мо й у Беларусі магчымае было нешта падобнае.

**Р.Б.:** - Але мы ў Беларусі ў асаблівай сытуацыі. Што б мы ні гаварылі на Саюз пісьменьнікаў, ён стараўся заставацца асяродкам, асабліва калі ўжо быў сьпелы сацыялізм, калі ідэолягі гаварылі, што мы ўжо на парозе камунізму, ён заставаўся практычна адзінай арганізацыяй, якая стаяла за беларускасьць. І ў гэтым сэнсе, калі аб'яднацца, дык толькі на той аснове, каб захоўваць беларускасьць.

**RR:** - Вакол беларускае ідэі?

**Р.Б.:** - Так, вакол беларускае ідэі. Але ўсё складана. Таму што ня ўсе, хто ў Саюзе пісьменьнікаў, трымаюцца беларускае ідэі. Зараз у Саюзе пісьменьнікаў 500 сябраў. Ну, гэта немагчыма. У Эўропе, у любой частцы сьвету, калі пытаюцца: колькі ў вас пісьменьнікаў? - ім хапае пяці пальцаў, ну дзесяці ад сілы! У нас жа трэба й разуцца, і разьдзецца - і ўсё роўна ня хопіць пальцаў. Гэта нонсэнс!

**RR:** - А ці зьбіраецеся вы самі іськці на пісьменьніцкі зьезд?

**Р.Б.:** - У залежнасьці ад здароўя. Вы разумеце, мне 66 гадоў. Нічога новага я там не пачую.

*«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»*
**чакае Вашае ахвяры**

**Леанід ЛЫЧ,** доктар гістарычных навук, прафэсар

# БССР З ПАЗЫЦЫЯЎ СУЧАСНАСЬЦІ

(Спэцыяльна для "Беларускага Дайджэсту")

(Працяг з папярэдняга №)

Калі яшчэ ўрад Расейскай Федэрацыі і яе дыпляматычныя службы можна неяк зразумець (толькі не апраўдаць), што яны не дапусьцілі прадстаўнікоў Беларусі да ўдзелу ў канцы 1917 — пачатку 1918 г. у абмеркаваньні ўмоваў Брэсцкага міру (а ў час-жа іх закранался і пытаньне аб лёсе значнай часткі беларускіх зямель!), спасылаючыся на тое, што гэты раён былой Расейскай імпэрыі ня ёсьць нацыянальна самабытны, а таму ня мае права на стварэньне сваёй суверэннай дзяржавы, дык на час вядзеньня расейска-польскіх перамоў у кастрычніку 1920 г. у Рызе становішча карэнным чынам зьмянілася. Дэ-юрэ Беларусь лічылася суверэннай дзяржавай і таму абавязкова павінна была прысутнічаць там, дзе адбывалася незаконная, супярэчлівая ўсім міжнародным нормам дзяльба яе тэрыторыі. Шкада, што сусьветная грамадзкасьць прамаўчала тады, чым толькі паспрыяла насланьню на Беларусь зусім незаслужанай бяды. Але галоўная прычына трагізму заключаецца ў тым, што ні Расея, ні Польшча не захацелі побач з сабой мець прадстаўнікоў ад Беларусі, бо пры такіх умовах куды больш складана было-б рабаваць яе этнічныя землі. З гэтага можна заключыць, што Беларусь дэ-факта не зьяўлялася тады паўнапраўнай, самастойнай дзяржавай, была цацкай у руках суседніх краінаў.

Не ўдалося Беларусі пайсьці трывалым шляхам незалежнага нацыянальна-дзяржаўнага разьвіцьця ў гады мірнага будаўніцтва. Яна практычна паўтарала ўсе тыя эканамічныя, сацыяльна-палітычныя і культурныя экспэрымэнты, што праводзіліся ў Расейскай Фэдэрацыі, а са сьнежня 1922 г., калі быў створаны СССР, і яго палітыку. У такім залежным стане вельмі цяжка захоўваць этнакультурную самабытнасьць, не паддацца асыміляцыі.

Менш за ўсё з нацыянальнымі інтарэсамі БССР лічыліся яе вышэйшыя партыйныя органы ў асобе ЦК КП(б)Б. Іх дзейнасьць умела зводзілася да таго, каб у пытаньнях нацыянальна-дзяржаўнага разьвіцьця БССР асабліва не адчувала сябе незалежнай ад Расеі. Праводзіць такую лінію не ўяўляла аніякай цяжкасьці для ЦК КП(б)Б, бо ад моманту свайго ўтварэньня і аж да сакавіка 1939 г. ён узначальваўся прысланымі Масквою асобамі небеларускай нацыянальнасьці. Традыцыйна першыя сакратары ЦК КП(б)Б карысталіся неабмежаванай уладай, свабодна праводзілі тую палітыку, якую лічылі патрэбнай. І свабодна ў значнай ступені таму, што і сам апарат вышэйшага партыйнага органу рэспублікі быў слаба прадстаўлены беларусамі. Таму для яго не ўяўляла аніякай складанасьці ў лістападзе 1920 г. (г. зв. на чацьвертым месяцы пасьля другога абвяшчэньня БССР) на сваім трэйцім зьезьдзе правесьці палажэньне, што "КП(б)Б ёсьць абласная (не рэспубліканская! — Л. Л.) арганізацыя РКП (Расейскай камуністычнай партыі. — Л. Л.), праводзіць у жыцьцё прынцыпы і тактыку РКП, дастасоўваючы яе да мясцовых умоваў і ў агульным і цэлым падпарадкоўваецца дырэктывам ЦК РКП (бальшавікоў)". Камэнтары да гэтых слоў зусім непатрэбныя, бо з іх вельмі выразна вынікае поўная залежнасьць бальшавіцкай партыі Беларусі ад партыйнага цэнтру ў Маскоўскім Крамлі. Гэтая залежнасьць прасочваецца і ў наступным месцы з рэзалюцыі IX зьезду КП(б)Б (сьнежань 1925 г.): "Агульныя задачы РПК у галіне гаспадарчага будаўніцтва, якія стаяць перад усёй партыяй, зьяўляюцца ў той час і задачамі КП(б)Б як часткі РКП".

Адсутнасьць у КП(б)Б той крытычнай масы самастойнасьці, якая неабходна для нармальнай дзейнасьці, выявіць спаўна ўсе свае негатыўныя бакі тады, калі партыйныя органы падамнуць пад сябе дзяржаўныя, у выніку чаго Беларусь вырашэньне ўсіх сваіх праблем, прычым і не самых важных, будзе ў абавязковым парадку ўзгадняць з Масквой. Паўнейшая залежнасьць ад апошняй! А інакш і быць не магло, бо бальшавікі строга прытрымліваліся выказанага У. Леніным тэзісу, што сапраўдны патрыёт і інтэрнацыяналіст "павінен змагацца *супроць* дробнанацыянальнай вузкасьці, замкнутасьці, адасобленасьці (пад гэтыя тры паняцьці вельмі лёгка падвесьці любыя клопаты таго ці іншага народу пра свае ўласныя ўнутраныя патрэбы. — Л. Л.), за ўлік цэлага і ўсеагульнага, за падпарадкаваньне інтарэсаў прыватнага інтарэсам агульнага". Бадай, ніводнай ленінскай цытатай так не любілі карыстацца савецкія палітыкі і вучоныя, як гэтай, калі размова заходзіла пра міжнацыянальныя адносіны ў СССР. Падпарадкаваньнем прыватных інтарэсаў агульным было істотна выхалашчана нацыянальна-спэцыфічнае з культураў усіх народаў, акрамя рускага, культура якога прызнавалася найбольш прыдатнай для сьветлага камуністычнага грамадзтва. З усіх тытульных народаў саюзных рэспублік найбольшыя страты ў нацыянальнай культуры, моўным разьвіцьці панёс беларускі, віна за што найперш кладзецца на партыйныя і дзяржаўныя органы нашай рэспублікі, якія сьвядома не ў меру культывавалі тут рускія духоўныя каштоўнасьці, абмяжоўваючы свае ўласныя.

Не праяўляліся ў нас і належных клопаты пра ўмацаваньне нацыянальнай дзяржаўнасьці. Апраўдвалася любая форма яе залежнасьці ад агульнасаюзных органаў. Каб уціхамірыць тых нацыянальна-самасьвядомых беларусаў, якія былі вельмі незадаволеныя, што з утварэньнем у сьнежні 1922 г. Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік Беларусь у гэтай саюзьніцкай дзяржаве пазбавілася многіх кампэтэнцыяў, КП(б)Б на трэйцім месяцы пасьля такіх істотных перамен у дзяржаўным статусе нашага народу заявіла на сваім сёмым зьезьдзе, што мэтаю існаваньня паасобных савецкіх рэспублік зьяўляецца ні што іншае, як толькі хуткае адраджэньне эканамічнага жыцьця, быту і культуры. "Пры такой сыстэме адносін паміж савецкімі рэспублікамі існаваньне мясцовых савецкіх дзяржаўных утварэньняў і іх органаў апраўдваецца, галоўным чынам, пастолькі, паколькі яны, улічваючы эканоміку, быт, культуру свайго раёну, робяць усе захады да хутчэйшага яго адраджэньня". Выходзіць, каб такія дзяржаўныя ўтварэньні не адпавядалі мэце хутчэйшага адраджэньня таго ці іншага нацыянальнага раёну, іх існаваньне можна было-б прызнаць неапраўданым.

Настойліва выбівалі глебу з-пад ног у тых, хто лічыў сябе прыхільнікам рэальнай дзяржаўнасьці нацыянальных рэспублік, яшчэ і рознага роду сцьвярджэньнямі ў афіцыйных партыйных дакументах і марксісцка-ленінскай літаратуры аб непазбежнасьці адміраньня дзяржавы ў працэсе камуністычнага будаўніцтва. Пры такіх поглядах на дзяржаўнае разьвіцьцё савецкіх народаў, зразумела, ніяк не выпадала бунтаваць, калі Масква пазбавіла БССР самастойна весьці зьнешнюю палітыку, мець уласнае войска, адкрыла неабмежаваныя магчымасьці для дзеяньня на яе тэрыторыі агульнасаюзных рэпрэсіўных органаў у асобе Аб'яднанага галоўнага палітычнага ўпраўленьня, Народнага камісарыяту унутраных спраў. Без іх прамога ўмяшаньня ва ўнутранае жыцьцё Беларусі з мэтай правядзеньня тут палітычнага, эканамічнага курсу партыйнага цэнтру яе абмінулі-б прымусовая калектывізацыя з высылкай значнай часткі вяскавага насельніцтва ў слаба абжытыя і халодныя раёны СССР, барацьба з надуманым нацдэмакратызмам і самае страшнае і пачварнае — масавыя рэпрэсіі 30-х гадоў. Усё гэта беларускаму народу прынесена знадворку, не выклікалася патрэбамі яго ўнутранага разьвіцьця. У Беларусі не хапіла нават правоў, каб абараніць красу сваёй нацыі — інтэлігенцыю, элітарную частку якой беспадстаўна абвінавацілі ў антысавецкай дзейнасьці, імкненьні адарваць наш край ад СССР і далучыць да Польшчы. З Масквы да нас рэгулярна пасылаюць спэцыяльныя брыгады з высокіх агульнасаюзных партыйных і савецкіх органаў, якія ажыцьцяўляюць праверку кадраў і паказваюць, каго з іх трэба зьняць з працы, узяць пад арышт. Такога-ж ніколі ня робіцца з сувэрэннай — фактычна, а ня толькі па форме — краінай незалежна ад таго, уваходзіць яна ў склад канфэдэратыўнай ці фэдэратыўнай дзяржавы. Без удзелу, згоды адпаведных органаў Беларусі вызначалася і месца, дзе павінны былі адбываць свой тэмін турэмнага зьняволеньня яе грамадзяне, арыштаваныя па розных палітычных справах. Звычайна-ж месцы, куды этапіравалі палітвязьняў з Беларусі, карэнным чынам адрозьніваліся ў горшы бок ад яе прыродна-кліматычных умоў, што таксама можа разглядацца як адзін з спэцыфічных відаў пакараньня.

Вышэй мною адзначаўся ў якасьці доказу ўрэзанай сувэрэннасьці Беларусі факт заняцьця пасады першага сакратара ЦК КП(б)Б прысланымі Масквою асобамі небеларускай нацыянальнасьці. Такое назіралася, прычым ня толькі ў рэспубліканскіх, але і ў больш нізкага рангу органах: Наркамаце ўнутраных спраў, пракуратуры, судоў, устаноў юстыцыі, непасрэдна ў самых спэцыяльных рэпрэсіўных падразьдзяленьнях. Пры такіх акалічнасьцях было куды прасьцей чыніць расправу з нічым невінаватымі людзьмі.

Практычна да нуля была зьведзена роля дзяржаўных органаў Беларусі ў арганізацыі абароны сваіх рубяжоў, ажыцьцяўленьні зьнешняга гандлю, вызначэньні асноўных напрамкаў эканамічнага разьвіцьця, фармаваньні сыстэмы народнай адукацыі і вырашэньні іншых пытаньняў. На неабсяжных прасьцягах усяго СССР усталёўваліся агульныя для нацыянальных дзяржаўных утварэньняў стандарты, ад якіх ніхто ня меў права адступаць. Такая стандартызацыя практычна нідзе не давала ніякай карысьці, а што датычыць духоўнага жыцьця саюзных рэспублік, тут яна ўяўляла вельмі вялікую небясьпеку для існаваньня нацыянальна-самабытнага, спэцыфічнага ў ім. Ёсьць усе падставы сцьвярджаць, што ўжо ў перадваенны час выразна выявілася тэндэнцыя культурна-моўнай асыміляцыі ўсіх нацыяў і народнасьцяў СССР, якая часта зусім беспадстаўна апраўдвалася патрабаваньнямі камуністычнага будаўніцтва, неабходнасьцю пераадоленьня архаічных перажыткаў у побыце і культуры народаў. Усе гэтыя негатыўныя працэсы ня мелі-б месца, калі-б саюзныя рэспублікі СССР, у т. ліку і Беларусь, зьяўляліся па-сапраўднаму сувэрэннымі. Сваёй нацыянальнай палітыкай партыя бальшавікоў груба парушала сфармуляванае Ф. Энгельсам палажэньне, што "кожны народ павінен мець незалежнасьць і быць гаспадаром у сваім уласным доме".

Усё сказанае вышэй можа быць вельмі важным урокам, сур'ёзным напамінкам, што будучы складовай часткай фэдэратыўнай, канфэдэратыўнай дзяржавы, кожная яе нацыянальная адзінка павінна вельмі пільна сачыць, каб не парушаўся яе сувэрэнітэт пры вырашэньні ўсіх найбольш істотных пытаньняў у сфэры палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцьця, каб скрозь забясьпечваліся прыярытэты нацыянальнага над інтэрнацыянальным, што не дазволіць гэтай адзінцы стаць праглынутай якім-небудзь больш буйным па колькасьці народам, страціць сваю самабытнасьць і адметнасьць, асноўнымі кампанэнтамі для якіх былі, ёсьць і будуць родная культура і мова. З мэтай ня даць пахіснуцца, а ў горшым выпадку і зусім страціць свой дзяржаўны сувэрэнітэт, кожная нацыянальная адзінка саюзнай дзяржавы павінна паступаць так, каб усе лёсавызначальныя пасады знаходзіліся ў руках карэнных людзей краю, прычым з неразмытай нацыянальнай самасьвядомасьцю, здольных у інтарэсах сваёй Бацькаўшчыны пайсьці на любыя ахвяраваньні. Прадстаўніку нацыянальных меншасьцяў такую пасаду можна даверыць толькі пры ўмове, калі ён усім сэрцам і душою любіць Беларусь, непахісна выступае за яе дзяржаўны сувэрэнітэт, інтэграваны ў яе культурна-моўнае жыцьцё.

Семдзесяцігадовае знаходжаньне БССР у складзе СССР, сусьветная практыка ўвогуле пераканаўча прадэманстравалі, што ўсе поліэтнічныя краіны ўяўляюць сабою крайне сур'ёзную пагрозу для захаваньня нацыянальна-культурных адметнасьцяў іх народаў. Са стратай-жа такіх адметнасьцяў пачынаецца незваротны працэс культурна-моўнай асыміляцыі. Каб ня стаць яго ахвярай, кожная нацыянальная адзінка фэдэратыўнай (канфэдэратыўнай) дзяржавы павінна, не лічачыся ні з якімі аб'ектыўнымі і суб'ектыўнымі фактарамі, забясьпечыць у першую чаргу, прычым не на словах, а на справе статус адзінай дзяржаўнай прыроднай мове свайго народу, аддаць перавагу над усімі сваёй нацыянальнай культуры і народнай адукацыі.

Што-ж датычыць забесьпячэньня безасыміляцыйнага існаваньня карэннага народу на яго гістарычнай тэрыторыі, тут разумна, лягічна ісьці на любыя абмежаваньні працэсаў культурна-моўнай асыміляцыі такога народу. Цывілізаваны сьвет ніколі не асудзіць мэтанакіраваныя дзеяньні дзяржавы па ладаваньні духоўнага жыцьця кожнага карэннага насельніцтва на яго прыроднай самабытнай аснове, што толькі і можа гарантаваць яму прыстойнае месца сярод усіх іншых нацыянальных супольнасьцяў, і не выкажа да яе павагі, калі неабдуманай палітыкай пераўтворыць свой народ у аморфную этнічную масу, здольную толькі служыць пажыўным рэчывам для колькаснага росту народаў з трывалым культурна-моўным патэнцыялам. Беларускі народ практычна ледзь ня стаў такім рэчывам, у чым самая вялікая віна партыйных, савецкіх органаў самой БССР. Ні ў адной з саюзных рэспублік не праводзілася такая "плённая" дзейнасьць па русіфікацыі карэннага насельніцтва, як у нас, за што высокія партыйныя асобы ЦК КПСС ня раз хвалілі Беларусь.

Адсутнасьць у БССР нават самага мізэрнага набору правоў сувэрэннай дзяржавы зусім не адзначае, што яна (БССР) не дала нічога станоўчага для беларускага народу. Гэта станоўчае найперш трэба бачыць у зьяўленьні ў яго хоць самай мінімальнай магчымасьці будаваць сваё дзяржаўнае жыцьцё ў адпаведнасьці з уласнымі нацыянальнымі традыцыямі. На рубяжы XIX-XX ст. пра такую магчымасьць не марылі нават самыя шчырыя адраджэнцы. Яны цешыліся пажаданьнямі аб атрыманьні Беларусьсю хоць абласной (краявой) аўтаноміі ў складзе будучай фэдэратыўнай, дэмакратычнай Расеі. Здабыты БССР статус дзяржаўнасьці дазволіў ёй у міжваенны пэрыяд прыкладна дзесяць гадоў плённа займацца палітыкай беларусізацыі, у выніку якой з падпольля на паверхню выйшла беларуская мова, былі закладзены трывалы мураваны падмурак пад нацыянальную сыстэму народнай адукацыі.

Сфармаваньне за час існаваньня БССР у беларускага народу погляду на сябе, як на законнага гаспадара гэтай дзяржавы, вельмі паспрыяла росту яго нацыянальнай самасьвядомасьці. А гэта-ж акурат тая якасьць, якая робіць, дапамагае народу паверыць у свае сілы, не запабягаць перад іншымі, стаць сапраўдным вяршыцелем уласнага лёсу. І каб не арганізаваны падчас масавых рэпрэсіяў 30-х гадоў партыйным цэнтрам Масквы крыжовы паход супраць самага нацыянальна здаровага ядра беларускага народу, ён вельмі хутка зьняў-бы з парадку дня пытаньне пра сваё выратаваньне ад любых формаў культурна-моўнай асыміляцыі. Яго сёньняшняе духоўнае жыцьцё ня ведала-б такой глябальнай дэнацыяналізацыі, цалкам адпавядала-б высокім стандартам цывілізаванага сьвету.

Наяўнасьць у беларускага народу дзяржавы ў форме БССР дапамагло яму ў пасьляваенны час стаць сталым членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. І хоць наша дэлегацыя ў гэтым самым аўтарытэтным міжнародным органе і слова не магла вымавіць без папярэдняга ўзгадненьня з дэлегацыяй СССР, усё-ж дадзены фактар станоўча адбіўся на папулярызацыі БССР у сьвеце, выклікаў пэўны гонар у беларускага народу, трываліў яго нацыянальную самасьвядомасьць. Грамадзянам нашай рэспублікі вельмі імпанавала, што ў складзе СССР яна мела статус саюзнай, а не аўтаномнай, г. зн. не ўваходзіла ў Расейскую Фэдэрацыю ці Ўкраіну на правах нейкай нацыянальнай адзінкі. Мне ні разу не даводзілася пачуць ці прачытаць, каб у пэрыяд існаваньня СССР хтосьці з беларусаў выказваў жаданьне бачыць сваю Бацькаўшчыну на становішчы звычайных абласьцей РСФСР. Зусім не жадалі такога першыя і іншыя высокія партыйныя і дзяржаўныя асобы БССР, бо для іх куды больш прэстыжным і сацыяльна выгадным было знаходзіцца ў сябе дома на пасадах сакратароў ЦК КПБ, старшыняў Прэзыдыума Вярхоўнага Савету, Савету Міністраў Беларускай ССР, чым займаць пасады ў верхніх эшалонах улады абласных партыйных і савецкіх органаў Расейскай Фэдэрацыі. Каб такога прэцэдэнта не ўзьнікла, партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі БССР імкнуліся забясьпечыць ёй хоць самую мінімальную нацыянальна-культурную моўную адметнасьць ад Расеі, адцягнуць па часе поўную русіфікацыю беларускага народу. Карацей кажучы, БССР ва ўмовах СССР была для нас нейкім гарантам нацыянальнага разьвіцьця, хоць і крайне далёкага ад самабытнага і арыгінальнага. Яго ўвесь час тачыў чарвяк асыміляцыі. Але каб у нашага народу ня было Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, і яго гістарычная тэрыторыя ў якасьці аўтаномнай рэспублікі ці звычайных вобласьцяў уваходзіла ў склад Расейскай Фэдэрацыі, па гэтым славянскім народзе яшчэ за доўгі час да распаду СССР давялося-б адслужыць паніхіду. Дзякаваць Богу, не адслужылі!

І трэба нам усім неяк нарэшце зьмірыцца з натуральнай сьмерцю СССР. Да якой-жа пары будзем ліць сьлёзы па нябожчыку, знаходзіцца ў стане настальгіі? Не адных нас напаткаў такі гістарычна непазьбежны лёс. Прыслухаемся да праўдзівых слоў нашага прагрэсыўнага рэлігійнага і грамадзкага дзеяча Вінцэся Гадлеўскага: "Гісторыя нас вучыць, што дзяржавы, зложаныя зь некалькіх нацыянальнасьцяў, разваліваліся, а ня было выпадку, каб развалілася дзяржава, зложаная з адной сьведамай нацыі". Таму давайце будзем глядзець не назад, а ўперад.

Нацыянальна-дзяржаўнае ўтварэньне ў форме БССР, ня будучы ў стане цалкам прадухіліць культурна-моўную асыміляцыю свайго тытульнага народу, усё-ж знайшло ў сабе сілы адтэрмінаваць яе і дзякуючы гэтаму дачакацца скону СССР, а пасьля гэтага зусім заслужана дамагчыся для сябе статусу незалежнай, сувэрэннай дзяржавы. У гэтым найперш і трэба бачыць гістарычную ролю БССР, не цураючыся браць у яе павучальныя ўрокі. І самы важны з іх, што любая форма міждзяржаўнага аб'яднаньня найбольшую карысьць прыносіць яе галоўнай нацыі, а ўсе астатнія павінны лічыцца з зусім рэальнай небясьпекай іх паступовай культурна-моўнай асыміляцыі. Размах і тэмпы апошняй можна толькі аслабіць, але не цалкам суняць. Пераканаўчым прыкладам такога сьцьвярджэньня могуць служыць вельмі многія краіны сьвету, асноўным, дзяржаўным народам якіх удалося навязаць сваю культуру і мову іншым этнічным супольнасьцям, пасьля чаго ўжо зусім заканамерна адпала ўсялякая патрэбнасьць захоўваць і іх палітычную аўтаномію. Нярэдка здаралася і такое, што спачатку такіх супольнасьцяў пазбаўлялі палітычнай аўтаноміі, а ўжо затым давяршалі іх культурна-моўную асыміляцыю. Але ва ўсіх выпадках вынік быў адзін і той-жа: колішняя поліэтнічная фэдэратыўная (канфэдэратыўная) дзяржава станавілася монаэтнічнай, унітарнай, у якой захаваўся, колькасна вырас толькі той народ, дзеля інтарэсаў якой у краіне ажыцьцяўлялася асымілятарская палітыка. З такімі нэгатыўнымі пасьледкамі сужыцьця народаў у поліэтнічных дзяржавах ня могуць не лічыцца сучасныя палітыкі, грамадзкія і культурныя дзеячы Рэспублікі Беларусь, якія так заклапочаны ня хутчэйшым палітычным аб'яднаньнем з Расеяй. Трэба як мага мацней засвоіць ісьціну, што сусьветная практыка яшчэ не знайшла нічога лепшага за нацыянальную дзяржаву. Калі яна сапраўды сувэрэнная, ёй адкрыты ўсе магчымасьці для самых цесных і разнастайных узаемавыгадных кантактаў з любой краінай плянэты Зямля. Таму ня трэба гандляваць нацыянальным сувэрэнітэтам Беларусі, за які так упарта і самаахвярна змагалася не адно пакаленьне выдатных людзей нашага народу.



# Быць бліжэй да аб'ектыўнасьці

## Развагі над бачынамі падручніка "Гісторыя беларускай літаратуры",

пад агульнай рэдакцыяй акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міхася Лазарука і прафэсара Антона Семяновіча.

Пяру першага з названых належаць досыць грунтоўныя "Уводзіны" да падручніка, у якіх паказаны асноўныя заканамернасьці літаратурнага працэсу на Беларусі, яго цесная сувязь з мастацкай творчасьцю іншых краін Эўропы. Шкада толькі, што сьмерць не дазволіла аўтару пазнаёміцца са сваёй надрукаванай работай.

Для падручніка выбрана вельмі простая, але, на маю думку, правільная храналёгія XX стагодзьдзя: 20-я гады, 30-я гады, Вялікая айчынная вайна, пасьляваеннае дзесяцігодзьдзе. У кожным храналягічным пэрыядзе амаль даслоўна супадаюць назвы параграфаў, якія ахопліваюць наступныя вузлавыя пытаньні: агульная характарыстыка, паэзія, проза, драматургія, дзіцячая літаратура, крытыка і літаратуразнаўства. У канцы кнігі ідуць артыкулы-пэрсаналіі, якія сустракаюцца практычна ва ўсіх выдадзеных за апошнія 50 гадоў працах па гісторыі беларускай літаратуры: Янка Купала, Якуб Колас, Міхась Чарот, Уладзімір Дубоўка, Міхась Зарэцкі, Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Платон Галавач, Янка Маўр, Міхась Лынькоў, Алесь Якімовіч.

З усіх параграфаў, што зьмешчаны пад назвай "Агульная характарыстыка" (іх аўтар А. Масейчык), найбольш зьмястоўным і цікавым мне падаецца той, што прысьвечаны паказу літаратуры ў 20-я гады. Аўтар правільна разабраўся ў складанасьці і супярэчлівасьці тагачаснага літаратурнага жыцьця і вельмі даходліва растлумачыў гэта студэнтам. З кнігі яны даведваюцца, што большасьць пісьменьнікаў цалкам падзялялі і палымяна абаранялі ідэю самастойнай і незалежнай Беларусі, былі актыўнымі прыхільнікамі і праваднікамі дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі, якая адыграла велізарную ролю ў нацыянальна-культурным адраджэньні нашага народу ў міжваенны пэрыяд.

Не пакінуты па-за ўвагай і тыя цяжкія супярэчнасьці, што ўзьнікалі на шляху разьвіцьця літаратуры ў нацыянальных рэспубліках, у тым ліку і ў Беларусі, пасьля ўтварэньня СССР. У рамках "адзінства савецкай літаратуры" адбывалася выцясьненьне з літаратурнага працэсу нацыянальна-спэцыфічнага, фарсіравалася ўніфікацыя і дэфармацыя мастацкай сьвядомасьці за кошт ідэалягічных агульнамастацкіх элементаў. Нацыянальнае стала трактавацца толькі як форма, ў выніку чаго народы СССР былі пазбаўлены пэўнаты культурнага самавыяўленьня, што балюча адбівалася на доўгатэрміновых інтарэсах усіх народаў велізарнай краіны" (б. 27).

Даводзіцца толькі пашкадаваць, што няма такога грунтоўнага аналізу ўмоў разьвіцьця літаратуры ў параграфах "Агульная характарыстыка" па астатніх пэрыядах. Так, самым трагічным у нашай айчыннай гісторыі 30-м гадам XX ст. адведзены толькі тры бачыны.

У разьдзелах, прысьвечаных паказу гісторыі нацыянальнай літаратуры міжваеннага пэрыяду, ёсьць спэцыяльныя параграфы па Заходняй Беларусі. На гэты раз ёй добра пашчасьціла: папершае, параграфы напісаны таленавітым літаратуразнаўцам Арсенем Лісам, па-другое, ім адведзена параўнальна нямала для такой кнігі бачынак. Той, хто знойдзе час і пазнаёміцца з ёю, абавязкова чымсьці цікавым і незаезджаным папоўніць багаж сваіх ведаў па дадзенай праблеме. Аўтар сьвядома падае ў сьціслай форме матэрыялы пра дзейнасьць добра вядомых нават школьнікам празаікаў і паэтаў з тым, каб больш падрабязна расказаць пра іх калег, што раней зусім заставаліся па-за ўвагай літаратуразнаўцаў ці згадваліся ў агульным сьпісе. Прачытаўшы адпаведныя бачыны падручніка, студэнты больш ня будуць ламаць галаву над пытаньнем, што гэта за беларускія пісьменьнікі 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя: Леапольд Радзевіч, Казімір Сваяк (Стэповіч), Макар Краўцоў, Алесь Смаленец, Францішак Грышкевіч і іншыя.

І ў параграфе, што прысьвечаны гісторыі нацыянальнай літаратуры Заходняй Беларусі ў 30-я гады, А. Ліс таксама прыводзіць нямала імёнаў, якія раней даволі рэдка трапляліся чытачу на вочы. У гэтым лёгка пераканацца, калі прачытаеш пра ўклад у нашу літаратурную спадчыну Хведара Ільяшэвіча. Нават у час самага жорсткага паняволеньня польскімі ўладамі Беларускага краю паэт не губляе аптымізму, пішучы: "Мы яшчэ прапяем у рассьвет//аб

**(далей гл. на наступнай бач.)**

цьвітучых садах і палетках" (б.137).

Заслужана знайшоў А. Ліс месца для выпуськніка мэдыцынскага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту Анатоля Бярозкі, які на вялікае шчасьце ўсёй сям'і беларускіх літаратараў, яшчэ і сёньня плённа працуе на гэтай ніве, жывучы ў ЗША. Нарадзіўся паэт на Ляхаўшчыне ў 1915 г. Нягледзячы на малады ўзрост, чытаем у падручніку, ён хутка пераадолеў пэрыяд паэтычнага вучнёўства і ўзьняўся на даволі прыстойны мастацкі ўзровень сваёй творчасьці... Паэзія яго разьвівалася ў агульным для перадавой літаратуры Заходняй Беларусі ідэйным рэчышчы, як апазыцыйная да рэжыму, яна адлюстроўвала нацыянальныя і сацыяльныя праблемы заходнебеларускай рэчаіснасьці. Верш А. Бярозкі разьвіваўся найчасьцей у эпічнай традыцыі: паэт імкнуўся да максімальнай мэтафарызацыі мовы. Гэтага патрабавалі ад заходнебеларускага пісьменьніка ня толькі законы мастацтва, што само па сабе зразумела, але і законы аўтарытарнага рэжыму — мэтафарай можна змадэляраваць думку забароненую, стоена сказаць нешта крамольнае ў вачах улады.

У падручніках па гісторыі беларускай літаратуры паасобным разьдзелам заўжды падаюцца гады змаганьня СССР з Нямеччынай. Паказваецца, што ў час, калі няспынна палілі з гармат, не маўчалі нашы празаікі, паэты, публіцысты, усяляк імкнучыся сваім словам заклікаць народ да ўсеагульнай барацьбы з ворагам. У падобным пляне паказана дзейнасьць беларускіх літаратараў і ў дадзеным падручніку. Аднак сёньня нас гэта ніяк ня можа задаволіць, бо мы хочам і павінны ведаць, як працавалі ў тыя гады пісьменьнікі, што не стаялі на савецкіх, бальшавіцкіх пазыцыях. На жаль у падручніку засталіся паза ўвагай яго аўтараў напісаныя падчас акупацыі творы Натальлі Арсеньневай, Янкі Золака, Уладзіміра Клішэвіча, Масея Сяднёва, Міхася Кавыля, Алеся Салаўя і іншых пісьменьнікаў. Ці-ж зашкодзіла-б студэнтам ведаць, што і гэтая катэгорыя празаікоў і паэтаў нікольki не ўступала сваім беларускім савецкім калегам у любові да роднага краю, жаданьні дапамагчы яму выжыць у тую трагічную часіну? Апынуўшыся ў час акупацыі ў Рызе, Алесь Салавей думае толькі пра дарагую яго сэрцу Радзіму, і ў вершы "На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса" выказвае цьвёрдую перакананасьць, што яна выйдзе пераможцай у змаганьні з нядоляй...

Прачытаўшы падручнік, студэнты не атрымаюць аніякага ўяўленьня аб беларускай літаратуры па-за межамі нашага краю, якую стваралі — і на належным мастацкім узроўні — аўтары, што па тых ці іншых прычынах палічылі за лепшае напярэдадні выгнаньня акупантаў падацца на захад. Нікога з нашых супляменьнікаў там не чакала добрае жыцьцё. Усе яны пачувалі сябе выгнаньнікамі, моцна сумавалі па Бацькаўшчыне, што спаўна адлюстравана і ў розных жанрах мастацкай літаратуры, народжанай на чужыне. Усё гэта вельмі добра прасочваецца ў паэзіі Янкі Золака, у прыватнасьці, у яго вершы "Сум па Родзіме"...

Міхасю-ж Кавылю не толькі сьніліся мясьціны, але і верылася ў іх шчасьце, што такімі словамі выказана ў вершы "Беларусь"...

Я лічу, што з нацыянальнай духоўнай спадчыны нельга выключаць ні твораў аўтараў прасавецкіх поглядаў, ні аўтараў, што спавядалі, былі носьбітамі зусім іншых ідэалаў. І да таго часу, пакуль гісторыкі беларускай літаратуры будуць кіравацца замшэлым бальшавіцкім партыйна-клясавым прынцыпам, яны не дадуць студэнтам пэўнага аб'ёму ведаў, аб'ектыўных зьвестак па дадзенай дысцыпліне. Гэтага нельга ня мець на ўвазе пры падрыхтоўцы трэйцяга выданьня падручніка па гісторыі беларускай літаратуры 20 — 50-х гадоў XX стагодзьдзя.

Леанід ЛЫЧ,
доктар гістарычных навук,
прафэсар.

******************************************************

# Сакрат, ты не маеш рацыі…

Адкрыты ліст старшыні ТБМ Сакрату Яновічу

**Алег ТРУСАЎ**

**2 красавіка НАША СВАБОДА перадрукавала з польскай Gazety wyborczaj артыкул «Рэзервацыя Беларусь» вядомага беларускага і польскага пісьменніка Сакрата Яновіча, які жыве на Беласточчыне. Аўтар падзяліўся з польскім чытачом сваімі даволі сумнымі назіраннямі з жыцця сённяшняй Беларусі. Сёння газета публікуе меркаванні адносна «Рэзервацыі «Беларусі» старшыні ТБМ Алега Трусава.**

Хацеў ці не хацеў сп. Яновіч, паказваючы польскаму чытачу, які амаль зусім не ведае сённяшнюю Беларусь, сваю звышпарыгінальнасць, але ён, не аднойчы у сваёй публікацыі схлусіўшы, увёў шырокія колы польскай грамадскасці ў зман, так як робяць зараз беларускія тэле- і радыёжурналісты тыпу Н.Чайкі, А Зімоўскага і інш.

Таму лічу неабходным пракаментаваць некаторыя выказванні сп. Сакрата.

*«У верхнім эшалоне яе ўлады (*Рэспублікі Беларусь. – А.Т.*) амаль няма беларусаў, нават тых, найвярнейшых з верных». «Нічога падобнага не здаралася ў савецкія часы, да іншага безумоўна абавязваў нацыянальны знак».*

Пагартайце школьныя падручнікі, сп. Сакрат. Менавіта ў савецкія часы кіравалі Савецкай Беларусіяй прысланыя не беларусаў. Дастаткова толькі прачытаць прозвішчы Мяснікова (Мяснікяна), Кнорына (Кнорыньша), Панамарэнкі, Ігрунова ды іншых. Варта толькі сказаць, што ў 1924 годзе ў склад КПБ уваходзіла значна меней беларусаў, чым палова ад яе колькаснага складу. А любым кіраўніком заўжды быў камуніст. Пасля вайны большая частка ўсіх кіраўнікоў нават нязначных структураў у БССР была прысланая збоку, асабліва ў галіне навукі, культуры і эканомікі.

Зараз сітуацыя змянілася, і большасць кіраўнікоў раённага і абласнога ўзроўняў тутэйшая, мясцовай гадоўлі, і менавіта яна апора сённяшняга рэжыму. Дарэчы, у апошні час рускага міністра абароны сп. Чумакова змяніў беларус Мальцаў, а на месца татарына Латыпава , міністра замежных справаў, прыйшоў мясцовы Міхась Хвастоў. Але сітуацыя не змянілася.

Варта прыгадаць і польскі вопыт. Ад таго, што кіраўнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі ў маладосці лічыў сябе беларусам і добра ведаў беларускую мову, становішча беларусаў у Заходняй Беларусі пры яго панаванні не стала лепшым, хутчэй наадварот.

*«Рэч у тым, што беларускай нацыі ў еўрапейскім разуменні тут не існуе...».* Аб гэтым хто толькі ні пісаў і ў XIX, і ў XX стст. Але ж пра тое, што ёсць беларуская нацыя, засведчыў яшчэ Францішак Багушэвіч, і спрачацца з ім могуць толькі неадукаваныя, неабачлівыя людзі.

І ці ведае сп. Яновіч, што ў сакавіку 1991 года на гарбачоўскім рэферэндуме за незалежнасць Беларусі прагаласавала больш за 1 мільён чалавек?

Дарэчы, галоўны аргумент сп. Яновіча, што яго бышцам бы не зразумелі па-беларуску ў менскай краме, даволі спрэчны, бо размаўляе ён, па-першае, з моцным польскім акцэнтам, а па-другое, даволі невыразна. Магчыма, і ў польскіх крамах яго не адразу разумеюць, але ці варта з гэтага рабіць драму?

Нядаўна я вырашыў зрабіць сацыялагічны эксперымент і, абышоўшы ўсе паверхі універмага, звярнуўся з самымі рознымі пытаннямі як мінімум да 20 прадаўцоў. Пры гэтым ужываў словы накшталт «бурштын», «шкарпэткі» ці «гарбата». Толькі адна маладая дзяўчына двойчы перапытала мяне. Чалавек восем адказалі на добрай беларускай мове, астатнія на «трасянцы», але ўсе ставіліся да маёй мовы прыязна.

Таму заяўляць, што **«ненавідзяць у Мінску беларускую мову – і ўсё. Бялеюць ад шаленства»,** проста «бздура».

Спадар Яновіч дагаварыўся да таго, што нават тысяча прафесараў-патрыётаў дома з жонкамі ці каханымі не размаўляюць па-беларуску. Можа ў яго Крынках так яно і ёсць, а вось у Мінску, дома па-беларуску размаўляюць дзесяткі тысяч людзей.

Хацеў прыгадаць сп. Яновічу вынікі апошняга перапісу 1999 года. 86% усіх грамадзянаў Беларусі назвалі роднай мовай беларускую, 24% — рускую і пры гэтым 3.700 тысяч людзей (з іх болей чым 500 тысячаў **небеларусаў**) пацвердзілі, што дома штодня гавораць па-беларуску. А гэта насельніцтва ўсёй Літвы, і з гэтым варта лічыцца.

*«...канчаткова ўпэўніўся, што не існуе школы з беларускай мовай навучання. Так, для віду тут і там ёсць пара сельскіх школаў, названых беларускімі, але ў іх ніхто не заікнецца па-беларуску».*

Так, у гарадах беларускіх школ засталося мала, але яны ёсць, кожны год змагаюцца за сваё існаванне, і пісаць, што іх няма, – гэта значыць свядома здрадзіць беларускай справе. Зараз у Беларусі ў гарадах дзейнічае 31 беларуская школа. З іх 5 у Менску, і ў тым ліку Нацыянальны ліцэй, які два гады хацелі зачыніць, але не здолелі (бо вучні, бацькі і настаўнікі не далі гэта зрабіць). Зараз на беларускай мове займаецца каля 20% дзяцей, прычым самы беларускамоўны горад – гэта Ліда, дзе колькасць беларускамоўных вучняў сягае да 40 %.

*«На сярэдняй ступені ніколі не вучылі па-беларуску. Не кажучы ўжо пра школу вышэйшую».* Зноў няпраўда. У БССР у 20-х – першую палову 30-х гадоў большасць тэхнікумаў вучылася па-беларуску, і ў тым ліку па-беларуску шырока выкладалі і ў ВНУ. У пачатку 90-х гадоў на беларускую мову перайшлі шмат якія выкладчыкі ВНУ. Толькі ў Гародні іх было каля сотні. Год таму ТБМ дабілася ад міністэрства адукацыі таго, што цяпер у адпаведнасці з новымі правіламі зноў адкрываюцца дзве плыні прыёму – беларускамоўная і рускамоўная. На беларускай мове найбольш выкладчыкаў зараз выкладае ў Беларускім універсітэце культуры, Педагагічным універсітэце, Акадэміі мастацтваў, па-беларуску працуюць два педагагічныя каледжы ў Мінску.

Зараз ТБМ і ТБШ сабралі каля 45 тысяч подпісаў грамадзянаў Беларусі за адкрыццё Беларускага Нацыянальнага універсітэта з навучаннем у Менску і з філіяламі ў буйных беларускіх гарадах. Мы не сумняваемся, што новы прэзідэнт Беларусі мусіць лічыцца з грамадскай думкай, і БНУ будзе адчынены.

*«Яе колькасць* **(апазіцыі. — А.Т.)** *першапачаткова не перабольшвала дзвюх тысяч чалавек, як правіла мінскіх інтэлігентаў, што прыкладна адпавядала накладу выключна беларускамоўнай прэсы».*

Зноў няпраўда. Толькі ў партыі БНФ і КХП БНФ разам зараз каля 5 тысяч чалавек, я ўжо не кажу пра АГП, БСДГ, БСДП (НГ) і іншыя партыі і рухі. Шматлікія няўрадавыя арганізацыі (трэці сектар) налічвае некалькі дзесяткаў тысяч сябраў. (Зараз толькі ТБМ мае каля 9 тысячаў сябраў.)

Цяпер пра наклады беларускамоўных газет. Дзяржаўныя газеты «Звязда», «Культура», «Голас Радзімы», «ЛіМ», «Раніца» і «Чырвоная змена» маюць наклады каля 85.000 асобнікаў. Ёсць і недзяржаўная вольная прэса. Да прыкладу, «Наша Ніва», «Наша Слова», «Пагоня» і іншыя. Агульны наклад болей за 10 тысяч. Толькі наклад «Нашага Слова» – 4.600 асобнікаў, з іх падпіска каля 3.500. Гэтыя прыклады можна было б доўжыць, але навошта. Калі вядомы ў свеце чалавек наўмысна ці ненаўмысна гаворыць няпраўду, гаворыць няпраўду, гэта крыўдна, бо яе далёка чуваць. Добра, што ў няпраўды заўжды кароткія ногі.

==========================================

# Не маеце рацыі, спадар Трусаў

Эсэ «Рэзервацыя Беларусь» як люстэрка нашай рэчаіснасці

**Інэса КАСЦЮК,** ветэран працы, Менск

*Не часта здараецца, каб я прачытала газетны артыкул тры ці чатыры разы запар, як гэта было з эсэ Сакрата Яновіча «Рэзервацыя Беларусь». Яно мяне проста захапіла. Не магу казаць, што спадабалася. Ці можа спадабацца боль ці горкая праўда? І раптам чытаю адкрыты ліст старшыні ТБМ А.Трусава: «Сакрат, ты не маеш рацыі...» Мяне здзівіў як сам гэты ліст, так і тое, што НАША СВАБОДА яго надрукавала.*

У лісце Сакрата Яновіча ўсё праўда, але, як кажуць, «праўда вочы коле». Праўда, што Беларусьператварылася ў нейкі «пасавецкі сметнік», «унікальную рэзервацыю», куды зляцеліся з іншых рэспублік былога Савецкага Саюза выкінутыя адусюль рускамоўныя кадры, якія ненавідзяць беларушчыну, ненавідзяць беларускую нацыянальную культуру, гісторыю, мову, ненавідзяць людзей, «занепакоеных уласным лёсам і ўласнай нацыянальнай годнасцю». Праўда, што для ўладаў і іх верных псоў беларуская мова стала мовай фашыстаў, дыверсантаў і шпіёнаў. Ці спадар Трусаў не ведае фактаў, калі маладзёнаў збівалі толькі за тое, што яны размаўляюць па-беларуску?

Спадар Яновіч правільна кажа, што «гаворка ідзе не пра агульнае веданне мовы, бо яно ў пераважнай частцы грамадства існуе. Гаворка ідзе пра іншае, што беларушчына выстаўленая ў раздзел мёртвых моваў, не патрэбных у будзённым жыцці».

Правільна, што цяперашнія ўлады «затапталі беларускую нацыю». Правільна, што ў Мінску «ненавідзяць беларускую мову».

Я не рабіла, як сп. Трусаў аніякіх экспэрыментаў, але прывяду два прыклады.

Еду неяк у тралейбусе, ды кіроўца (рэдкі факт) аб'яўляе прыпынкі і, наогул, размаўляе з пасажырамі на беларускай мове. Кажу суседцы, вясковага выгляду і сталага ўзросту жанчыне: «Як

прыемна чуць беларускую мову, якая яна прыгожая». І чую ў адказ: «Я не люблю беларускую мову, а мае дзеці і ўнукі яе наогул ненавідзяць». А скуль вы – пытаюся, напэўна з Расіі? «Не, — адказвае яна, — з беларускай вёскі». Вось да чаго давялі народ. Ці другі факт. Аднойчы на вечарыне чула выступ пана Крыжаноўскага, які хацеў, мусіць жартам, балатавацца на пасаду прэзідэнта Беларусі. Як ён здзекваўся з беларускай мовы: «Спадары ўсюды перарвалі інстытуты ў Акадэміі». Было прыкра глядзець, з якой пагардай ён ставіцца да гледачоў. І гэта прадстаўнік беларускай(?) культуры.

І мае рацыю Сакрат Яновіч, калі піша, што зараз становішча горшае, чым у БССР. Амаль не чуваць беларускай мовы па радыё і па тэлевізары. Усе нарады, сходы, урачыстасці праходзяць на расійскай мове, дакументацыя, шыльды ў дзяржаўных і недзяржаўных установах таксама на расійскай мове. І чым ганарыцца сп. Трусаў? Бачыце, у Мінску дзейнічае аж 5 (пяць!) беларускіх школак. Вось калі б ён напісаў, што ў Пецярбургу ці ў Маскве, або ў Новасібірску, дзе пражывае шмат беларусаў, ёсць некалькі (5–6) беларускіх школак, ва універсітэтах ёсць беларускія кафедры, вось тады можна было б ганарыцца.

А тое, што ў трох з мноства спецыяльных і вышэйшых установаў карыстаюцца беларускай мовай, таксама не падстава для гонару. І не відаць нам ні другога прэзідэнта, ні беларускай ВНУ.

Мае дзеці аддалі ўнукаў у беларускую гімназію. Я была вельмі задаволеная. Вучаць там беларускай мове добра. Але ж настаўнікі і дырэктар гімназіі размаўляюць паміж сабой на рускай мове, сходы і ўрачыстасці праходзяць пасійску, дзеткі вітаюць настаўнікаў і выступаюць на вечарынах на рускай мове. Вось вам і беларуская гімназія! Не пішу нумар гімназіі, каб не нашкодзіць унуку. Я люблю сваю нявестку, але яна аднойчы мне сказала, што я ім жыць замінаю з сваімі поглядамі. «Ну, што ж, – кажу, – адрачыцеся ад мяне. А я ад сваіх поглядаў не адракуся!»

Не думайце, спадары, што я такая разумная, я такая, як усе. Расла ў рускамоўнай сям'і, вучылася ў рускай школе, дзеці таксама вучыліся ў рускіх школах, ды беларускіх тады і не было, але я ўсётакі змагла зразумець, як піша Сакрат Яновіч, што нельга быць «страваваьным трактам».

Мае рацыю Сакрат Яновіч і ў тым, што «расіяне ніколі не прызнавалі беларускай нацыі, ды і шмат беларусаў не адчуваюць сябе беларусамі, калі дазваляюць Вялікаму Хаму лічыць сябе дзесяцімільённым Нікім, дазваляюць здзеквацца над роднай мовай, культурай, фальсіфікаваць сваю гісторыю». У нас не было Шаляпіна, дык быў Суніцкі-Забэйда, не было Рэпіна, дык была цудоўная школа мастакоў у Віцебску і г.д. Хто хоча ведаць, той ведае. Артыкул А.Трусава лье ваду на млын цяперашняй улады. І чаго ён так усхваляваўся? Што няма добрага плёну ад існавання ТБМ? Калі б у Расіі было «Таварыства российской словесности», яно б займалася больш глыбокім вывучэннем расійскай мовы. А наша ТБМ змагаецца, каб «не ўмерла» наша мова, як калісьці казаў Ф.Багушэвіч.

А Сакрат ёсць Сакрат, ён заўсёды мае рацыю.

******************************************

## ЗАЯВА

8-га мая 2001 г. усе тэлевізійныя каналы на Беларусі транслiравалі сьвяточны канцэрт для ветэранаў Вялікай айчыннай вайны.

На гэтым урачыстым мерапрыемстве не прагучала ніводнага беларускага слова, ніводнай песьні на беларускай мове.

З гэтай нагоды Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны г. Мінска выказвае рашучы пратэст. У гады Вялікай айчыннай вайны менавіта беларускае слова натхняла народных мсьціўцаў Беларусі на барацьбу, абуджала веру ў Перамогу над ворагам.

Лічым, што арганізатары гэтага сьвяточнага канцэрту прадэманстравалі зьняважлівыя адносіны да дзяржаўнай беларускай мовы, да ўсяго беларускага народу.

Мінская гарадская Рада
ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"
10. мая. 01.

# "Пагоня" - за намі

**В. Бабак** ( Р. Р.)

14-га траўня 1995 году ў Беларусі прайшоў першы зыніцыяваны Аляксандрам Лукашэнкам рэфэрэндум, у выніку якога замест сымболікі незалежнай дзяржавы краіна зноў апынулася пад старымі савецкімі, хаця й крыху зьмененымі, гербам і сьцягам. У адрозьненьне ад бела-чырвона-белага сьцягу й гербу "Пагоня", што атрымалі статус дзяржаўных у ліпені 1991-га, над новымі-старымі чырвона-зялёным сьцягам і гэтак званай у народзе "капустай" спэцыялісты ня надта працавалі. А сам Аляксандар Лукашэнка ў адной са сваіх тагачасных тэлепрамоваў непрыхавана гана- рыўся, што ўласнаручна спрычыніўся да выявы "каласочкаў" на гербе. "Гэткі барбарскі падыход да справы выглядае вельмі сымбалічна - як сьведчаньне "часовасьці" таго, што робіцца цяпер у Беларусі", - лічыць Мікола Купава, адзін з групы спэцыялістаў, якія працавалі напачатку 90-х над эталёнам этнічна-ўгрунтаваных дзяржаўнага гербу "Пагоня" й бела-чырвона-белага сьцягу.

Упершыню за шматвяковую гісторыю існаваньня "Пагоні" й бела-чырвона-белага сьцягу, у розныя пэрыяды якой выкарыстоўваліся самыя розныя іхныя варыяцыі, быў калектыўна распрацаваны эталён гэтых сымбаляў, над якім шчыравалі лепшыя беларускія гісторыкі й мастакі. "Праца заняла досыць працяглы час. Але гэта былі вельмі цікавыя й шчасьлівыя дні", - згадвае мой суразмоўца Мікола Купава.

**М.К.:** - У Вярхоўным Савеце тады была створаная адмысловая група спэцыялістаў. Гэта была група "экстра-кляс" - можна сказаць, паколькі ў яе ўваходзілі навукоўцы высокага клясу: гісторыкі, мастакі, пісьменьнікі… Ачольваў яе Алег Трусаў, а куратарам быў Зянон Станіслававіч. У групе мастакоў працавалі Яўген Кулік, Уладзімер Крукоўскі. Яны, уласна кажучы, і зьяўляюцца аўтарамі эталёну гербу. Астатнія проста ці кансультавалі, ці дапамагалі… І неўзабаве гэта было ўсё ажыцьцёўлена. Вы памятаеце, што было ня толькі ўсё намалявана, але потым быў прапанаваны эталён ляпны, аб'ёмны. А потым ужо мастакі ляпілі іх на франтоны Вярхоўнага Савету й нават КДБ…Ну што ж, цяпер ніхто ўжо амаль і не памятае, што было зроблена ў тыя гады.

Прыгадваючы рэфэрэндум 95-га, вынікі якога дазволілі Аляксандру Лукашэнку накінуць на



дзяржаву крыху падпраўленыя старыя савецкія сымбалі, і свае тагачасныя адчуваньні, Мікола Купава, аднак, ня лічыць сваю працу за марную й не дапускае думкі, што рэфэрэндум канчаткова пахаваў яе.

**М.К.:** - У нейкай ступені дэмакратычныя сілы, можа, і вінаватыя. Яны павінны на сябе ўзяць долю віны ў гэтым пляне - за тое, што як бы далі мажлівасьць правесьці антызаконьне гэтае… Але вы ж памятаеце, якія былі вынікі. Улічым, што яны былі падтасаваныя, несапраўдныя - і рэфэрэндум быў незаконны… Але ж нават 50 адсоткаў па гэтым пытаньні не было набрана… Таму гэта ўсё ўспрымалася як часовая зьва. Яна й ёсьць, канечне, часоваю. Але ж часовасьць можа цягнуцца й 10, і 20 гадоў…

"Затое калі гэты тэрмін міне, беларусам не спатрэбіцца шмат часу, каб вярнуць сваёй дзяржаве гістарычныя сымбалі", - дадае мастак Мікола Купава. І насамрэч: добрасумленна папрацаваўшы на павяртаньне нацыянальных сымбаляў на пачатку 90-х, гісторыкі й мастакі ўдыхнулі ў іх новае жыцьцё й пакінулі нашчадкам за годную спадчыну, паспрыяўшы набыцьцю імі дзяржаўнага статусу.

**Выпісвайце і чытайце "Беларускі Дайджэст"!!!**

## *Размова са спікэрам Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь XIII скліканьня Сямёнам ШАРЭЦКІМ*

**Спадар старшыня, скажыце, калі ласка, як вы ставіцеся да пытаньня пашырэньня Эўразьвязу, імкненьня посткамуністычных дзяржаваў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, такіх як Польшча, Летува, далучыцца да супольнасьці эўрапэйскіх краін?**

Гэта-ж справа Летувісаў і Палякаў, а не Беларусаў. І калі яны гэтага жадаюць, дык мы ім пажадаем у гэтым накірунку толькі посьпехаў.

**Такім чынам, вы ня бачыце будучыні Беларусі ў гэтым самым напрамку?**

Я ўжо некалькі разоў выказваўся, што Беларусь – гэта эўрапэйская краіна. І месца яе ва ўсіх эўрапэйскіх структурах. Справа толькі часу, але мы ўсё дзеля гэтага робім, дзеля таго, каб гэта адбылося хутчэй. Бо куды-ж можа падацца Беларусь. Яна-ж не азіяцка-эўрапэйская й нават не эўрапэйска-азіяцкая, а сугуба эўрапэйская краіна. І таму нашае месца ў Эўропе, у ейных структурах. Гэтым мы адрозьніваемся ад Расеі, якая больш азіяцка-эўрапэйская дзяржава. І нават па мэнталітэту насельніцтва. А Беларусы, як нацыя, фармаваліся ў эўрапэйскай дзяржаве. Таму Беларусы – Эўрапэйцы.

**Ці, паводле вас, Беларусь павінна быць нейтральнай дзяржавай, ці ўвогуле гэта магчыма?**

Нейтралітэт ці ўваходжаньне ў нейкія блёкі не залежыць ад таго, хочаш ты гэтага, ці ня хочаш. Гэта залежыць ад міжнароднага становішча. Я лічу, што калі нам будзе нехта пагражаць, у прыватнасьці, тая-ж Расея, калі нехта будзе хацець зьліквідаваць нашую незалежнасьць, тады нам трэба ісьці ў любыя эўрапэйскія блёкі, каб абараніць сваю незалежнасьць.

**Ці правільна зрабіў С.Шушкевіч, што ў свой час аддаў ядзерную зброю?**

Разумееце, ядзерная зброя й нейтралітэт, гэта ня тое самае, гэта розныя справы.

**Але-ж нейтральная дзяржава, між іншым, ня можа мець ядзернай зброі.**

Ну, гэта ўсё так. Гэтага патрабуе канстытуцыя. І Шушкевіч усё правільна зрабіў. Навошта нам ядзерная зброя? І ў Палякаў няма ядзернай зброі. Яны яе й ня просяць. Але яны знаходзяцца у такой арганізацыі, якая мае ядзерную зброю, якая гарантуе іх цэласнасьць і незалежнасьць. Уваходжаньне ў нейкія блёкі залежыць ад зьнешняй палітыкі. Пры чым, ня столькі ад палітыкі нашае дзяржавы, колькі ад палітыкі нашых суседзяў і больш далёкіх дзяржаў. Скажам, навошта ісьці ў нейкія блёкі Швейцарыі, калі яна знаходзіцца ў такім месцы, што ёй ніхто не пагражае? Яна можа быць у блёку, а можа й ня быць у блёку. А калі нам з усходу пагражаюць, дык мы павінны нечага шукаць. Шукаць і бараніцца ад таго, хто нам пагражае.

**Скажыце, калі ласка, на ваш погляд, наколькі рэальная й блізкая – у гадох – магчымасьць Беларусі стаць раўнапраўным чальцом эўрапэйскай супольнасьці?**

Я не хацеў-бы тут нечага гадаць. Але што будзе так, дык я ўпэўнены. Паўтараю, Беларусь – гэта эўрапэйская краіна. Ня ўсё толькі ад нас залежыць. Гэта таксама залежыць ад таго, як будуць сябе паводзіць іншыя эўрапуйскія краіны. Амэрыка тая-ж, больш далёкая. Па адлеглясьці больш далёкая, але вельмі ўплывовая ў сьвеце. Як будзе сябе паводзіць тая-ж Расея, якая зьяўляецца нашай суседкай, і многія палітыкі якой чамусьці лічаць, што Беларусь павінна быць ейнай часткай. Калі цягам стагодзьдзяў Беларусь ніколі не была часткай Расеі. Беларусь заўжды была ў эўрапэйскай супольнасьці аж да часу, пакуль царскі ўрад на чале зь Екацярынай не акупаваў беларускія землі.

*Гутарыла Эльвіра Богдан (Камунікат)*

## Памятник Купалы в Москве

**Комиссия по монументальному искусству Московской городской думы поддержала идею установки в российской столице памятника народному поэту Беларуси Янке Купале.**

В сообщении пресс-центра Мосгордумы отмечается, что часть жизни великого поэта была связана с Москвой: здесь он учился, здесь трагически погиб. Позднее прах поэта был перевезен в Минск. В свое время Москва подарила Минску памятник А.С. Пушкину, теперь же белорусы хотят подарить столице памятник своего народного поэта.

Предположительное место установки памятника — Миусская площадь, напротив бывшего Народного университета имени А. Л. Шанявского (ныне Российский государственный гуманитарный университет), где поэт учился. Финансирование работ готовы взять на себя общественные организации белорусской диаспоры в Москве, а также ряд организаций Республики Беларусь.

## Ядуць, што ўкрадуць: Малая калгасная гісторыя

**Сьвятлана Курс**

Калгасны лад, актыўным прапагандыстам якога выступае цяперашні кіраўнік Беларусі, яскрава ілюструецца гісторыяй калгасу " Чырвоны Шлях". Самі калгасьнікі на жыцьцё не наракаюць, бо 15-ці тысячаў беларускіх рублёў, заробленых у калгасе, дастаткова, каб мясцовая крама штомесяц выконвала плян продажу алькагольных напояў. Дачка заснавальніка калгасу "Чырвоны Шлях" Любанскага раёну расказвае пра гісторыю й сучаснасьць калектыўнай гаспадаркі.

Нядаўна кіраўніцтва нашае краіны пацьвердзіла сваю прыхільнасьць да захаваньня калгасаў і саўгасаў - як самай чалавечнай і эфэктыўнай формы гаспадараньня. Я вырашыла адведаць вёскі Любанскага раёну, дзе прайшло маё дзяцінства, каб паглядзець, што ж уяўляе зь сябе сучаснае калгаснае жыцьцё. Мяне зьдзівіў кантраст: калгасьнікі маюць убогі выгляд, але кажуць, што вельмі задаволеныя з жыцьця. Немагчыма зразумець гэты фэномэн, не зьвярнуўшыся да гісторыі калгасу на гэтай зямлі.

Калгас у вёсках Баянічы й Загальле пачалі арганізоўваць напрыканцы 20 гадоў. Ніхто туды асабліва ня рваўся, апроч трох актывістаў: Несьцера (прозьвішча яго ўжо ніхто не памятае), Якуба Аляксейчыка й Івана Кандрацені. Менавіта гэтыя тры чалавекі хадзілі па вёсцы з абрэзамі, заганялі сялянаў у арцель, а кулакоў зь іхнымі сем'ямі - на той сьвет. Потым гэтыя тры добрыя малойцы засяліліся зь сем'ямі ў хаты сваіх ахвяраў. Праз 70 зь лішкам год я пагутарыла з дачкой актывіста Івана Кандрацені, сп. Настаю. Цяпер гэта 83-гадовая жанчына, якая ні разу не адведала магілы бацькі й дасюль захавала нянавісьць да яго. Спн. Кандрацення распавядае, як яе бацька раскулачваў сем'і Яхімавых і Кісялёў:

**Н.К.:** - Як ён паехаў кулачыць Кісяля ды везьлі 4 дзетак і маці на вазу, ды мая мачыха плакала-плакала, кляла бацьку: "Каб ты не разжыўся! Каб табе Бог веку ня даў". Кляла бацьку й Несьцера. Госпадзі міленькі! Пазвала гэтых чатырох дзетак у хату, малака ім наліла. А бедная Кісяліха так плакала. А потым прыгналі машыну, папхалі іх, як які скот, і павезьлі. А Надзя, Яўхімава дачка, засталася. Яе дзядзька родны схаваў і не аддаў. А двое братоў, бацькі й сястра папалі на Ўрал, там і паўміралі.

**RR:** - А нашто Ваш бацька, такі багаты чалавек (хутар меў, зямлю, скот) пайшоў у калгас, раскулачваў людзей?

**Н.К.:** - Актывіст! Пэрсона ж такая, калхоз арганізаваў. Вось бацька быў які. (Уздыхае).

Пасьля Іван выбраў сабе прасторны кулацкі дом, перавёз са свайго хутара сям'ю й маёмасьць. Ён быў даволі заможны чалавек, але савецкая ўлада яго не чапала, бо ён стаў яе верным служкам. Спн. Наста распавядае, што ад ейнага бацькі адцуралася сям'я.

**Н.К.:** - А дом вялікі - 12 пакояў. А дзядзька мой зайшоў у гэты дом, завёў руку ды як дасьць бацьку па мордзе: "У што ты пусьціўся? У што ты пусьціўся?! Ты ўсяму роду няславу даў".

Іван Кандраценя многа й шчыра працаваў у калгасе. Тады за працадзень давалі 1 капейку грошай і некалькі кіляграмаў збожжа. Пасьля доўгага працоўнага дня ў калгасе сяляне гаравалі яшчэ й на ўласнай гаспадарцы. У 1930 годзе Іван памёр, падарваўшыся на сяўбе. Мачыха пакінула ягоных траіх дзяцей: 16-гадовага Дзяміна, 10-гадовую Насту й 5-гадовага Васіля. Дзямян пайшоў вучыцца на трактарыста. Наста мусіла працаваць і карміць малодшага брата. Калгас не пакінуў сірот. Ужо тады ён выконваў функцыю сабесу для тых, хто інакш загінуў бы з голаду.

**Н.К.:** - Памёр бацька, нас мачыха кінула, нам з калгасу давалі 2 літры малака на дзень і жытняй мукі, выдзелілі 15 сотак зямлі. Я навучылася пячы хлеб, запытала ў людзей, як варыць есьці, як саліць. Потым, у 12 год, пайшла папрасілася ў Несьцера, каб далі працу. Несьцер кажа: "Якую табе працу, ты ж яшчэ малая". Я кажу: дайце мне працу на сьвінарніку". Ён кажа: "То ідзі да сьвінарак папрасіся". Зь якою ж я радасьцю бегла прасіцца! Стаялі ля хлява сьвінаркі Надзя й Юстынька. Кажуць: "Ты яшчэ цэбра не падымеш. Будзеш мыць карыты й месьці праход". Так я 6 год прарабіла на сьвінарніку. Потым на цялятнік перайшла.

Працоўны стаж Насты Кандрацені складае 70 год. Яна атрымлівае пэнсію 43 тысячы й лічыць, што цяпер у калгасе вельмі добра.

**RR:** - Цяпер лягчэй жыць?

**Н.К.:** - Канечне, лягчэй. Толькі што гэтая дарагоўля душыць. А яны (калгасьнікі) ці гэтак робяць, як тады?! Возьмуць гарэлкі ды ляжаць на полі.

**RR:** - Дык у калгасе ж мала грошай зарабляюць, чаго ім працаваць?

**Н.К.:** - А раней зусім не плацілі. Па капейкі на працадзень давалі. Зарплаты ніякае не было, а на працадзень хлеб давалі.

Да пераходу калгасьнікаў на бясплатную працу засталося няшмат. Па словах загадчыцы калгаснай касы Тамары Мохарт, калгасьнікі зарабляюць па 15-20 тысячаў, прычым у траўні ў іх вылічылі па 15 тысячаў з заробку за апрацоўку іхных бураковых сотак. Цяпер сем'і атрымаюць па 1-4 тысячы. Загадчыца вясковай крамы ў вёсцы Загальле Лідзія Геляцюк кажа, што шмат якія сем'і месяцамі нічога не купляюць - нават чорнага хлеба. "Людзі ядуць тое, што вырасьцяць або ўкрадуць". Затое тутэйшая крама робіць плян - 11 млн руб. на месяц - на танных вінных напоях.

Такі парадак і лад называецца ў нашай краіне "самым эфэктыўным і чалавечным спосабам гаспадараньня на зямлі".

## Эўропе Беларусь патрэбная сувэрэннай і незалежнай

Radyjo Racyja

11 траўня ў сталіцы Нарвэгіі Осла скончылася міжнародная канфэрэнцыя "Беларусь паміж Усходам і Захадам: 2001 год прэзыдэнцкіх выбараў і ўпэўненая перамога дэмакратыі". Цікавасьць эўрапейскай супольнасьці да грамадзка-палітычнай сытуацыі Беларусі абумоўленая, у першую чаргу, набліжэньнем прэзыдэнцкіх выбараў. Адна з умоваў міжнароднага прызнаньня іх вынікаў -- дэмакратычнасьць і адкрытасьць. Гэта ўвесь час падкрэсьлівалі замежныя выступоўцы.

А вось паводле Канстанціна Затуліна, дырэктара Інстытуту краінаў СНД, былога парлямэнтара Дзярждумы, Беларусь ужо зараз зьяўляецца дастаткова дэмакратычнай краінай. Далейшая ж дэмакратызацыя Беларусі магчымая пасьля завяршэньня інтэграцыйных працэсаў -- інакш кажучы, дэмакратызацыя цераз інтэграцыю. Эўропе ж Беларусь патрэбная, як сувэрэнная й незалежная дзяржава, якая сама павінна вызначыць прыярытэты ў міжнародных стасунках, але пры гэтым выкананьне міжнародных пагадненьняў павінна стаць абавязковым.

Яшчэ ў Стамбуле афіцыйны Менск падпісаў дакумэнт, у якім вызначаліся функцыі Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ. На гэтым засяродзіў увагу падчас выступу кіраўнік групы амбасадар Ганс-Георг Вік. Таму, акрамя кансультацыяў, гэтая група можа праводзіць і назіраньне за выбарамі. Гэта не пярэчыць статуту АБСЭ, падкрэсьліў ён.

Алег Ермаловіч, беларускі амбасадар у Швэцыі, заўважыў, што нашая краіна мае намер запрасіць міжнародных назіральнікаў на выбары, але гэта не азначае, што будзе дазволена рыхтаваць назіральнікаў за заходнія грошы ўнутры краіны.

Сваімі ўражаньнямі з канфэрэнцыі ў нашай праграме дзеліцца лідэр БНФ Вінцук Вячорка: - Я вельмі задаволены канфэрэнцыяй. Яна выйшла за рамкі адной краіны, Нарвэгіі, - фактычна яна стала агульнаскандынаўскай, бо ўдзельнічалі прадстаўнікі й Даніі, і Швэцыі, прычым як дзяржаўных, так і недзяржаўных арганізацыяў. Думаю, важна таксама, што ў гэтай канфэрэнцыі ўдзельнічаў прадстаўнік расейскіх палітычных колаў, бо яшчэ раз стала зразумела, наколькі шчыльна пытаньне свабодных і справядлівых выбараў у Беларусі зьвязанае зь яе незалежным лёсам. Акрамя канфэрэнцыі, у нас былі важныя сустрэчы ў Міністэрстве замежных справаў на ўзроўні намесьніка міністра, і ў парлямэнце, якія лягічна дапоўнілі канфэрэнцыю.

З просьбай даць камэнтар мы зьвярнуліся й да Андрэя Саньнікава ("Хартыя'97").

**А.С.:** - Гэта была вельмі важная канфэрэнцыя. Яе зарганізавалі Хэльсынскі Камітэт Швэцыі й Хэльсынскі Камітэт Нарвэгіі, а таксама Інстытут міжнародных справаў Нарвэгіі (гэта вельмі ўплывовы стратэгічны цэнтар). І тое, што гэта адбылося ў Осла, што прысутнічалі прадстаўнікі скандынаўскіх краінаў - усё гэта вельмі важна для Беларусі, бо Беларусь належыць да рэгіёну Балтыйскага мора, таму сытуацыя ў Беларусі павінна цікавіць і непакоіць нашых суседзяў - і ня толькі ў краінах Балтыі, але й у скандынаўскіх краінах. Тое, што яны добра ведаюць сытуацыю, і тое, што яны занепакоеныя гэтай сытуацыяй, азначае: больш увагі будзе надавацца падчас прэзыдэнцкіх выбараў. Прадстаўнікі і Міністэрства замежных справаў, і парлямэнту, і няўрадавых арганізацыяў казалі пра тое, што яны пільна адсочваюць і будуць дапамагаць дэмакратычным сілам бараніць правы чалавека ў Беларусі й адстойваць інтарэсы дэмакратыі й у міжнародным кантэксьце (гэта значыць, і ў АБСЭ, і ў Эўразьвязе), і ў іншых міжнародных арганізацыях.

*****************************************

### "Аздараўленьне" беларускіх дзяцей

Лідэрамі па прыёме беларускіх дзяцей на аздараўленне за апошнія тры гады зьяўляюцца такія краіны як Італія — 86 тыс. дзяцей, што складае 47 працэнтаў ад агульнай колькасьці дзяцей, якія выязджалі на аздараўленне за мяжу; Германія — 31,3 тыс. дзяцей, або 17 працэнтаў ад агульнай колькасці дзяцей; Іспанія — 20,4 тыс. дзяцей, або 11 працэнтаў ад агульнай колькасці дзяцей; Бельгія — 12,5 тыс. дзяцей; Ірландыя — 6,6 тыс. дзяцей; Вялікабрытанія — 5,2 тыс. дзяцей і многія іншыя краіны.

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# КРОК ДА НОВАЙ БЕЛАРУСІ

**Аб стварэнні новага грамадскага руху аб'яўлена у Мінску. Ініцыятарамі яго сталі больш як сто грамадзян Беларусі, якія падпісалі адпаведны заклік. Назвы ў руху пакуль няма (хутчэй за ўсё гэта будуць словы "За новую Беларусь"), аднак ужо вызначаны лідэр — экс-міністр сельскай гаспадаркі краіны Васіль Лявонаў.**

Мэта руху — аб'яднаць жыхароў краіны дзеля падтрымкі ў час прэзідэнцкіх выбараў кандыдата, альтэрнатыўнага Аляксандру Лукашэнку. Фактычна гэта павінен стаць нехта з вядомай "пяцёркі" (Сямён Домаш, Уладзімір Ганчарык, Павел Казлоўскі, Міхаіл Чыгір, Сяргей Калякін — людзі, што ўжо выклікаюць амаль што вар'яцкую рэакцыю ўладаў). Цікава, што сярод "падпісантаў" людзі вельмі розныя — паэты Генадзь Бураўкін і Ніл Гілевіч, былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч, былы намеснік старшыні КДБ Валерый Кез, генералы Яўген Бачароў і Канстанцін Платонаў, дырэктар маскоўскага завода "Рубін" Анатоль Лашкевіч (яго жыццёвы лёс шмат гадоў быў звязаны з Беларуссю)... Але ўсе яны палічылі сваім маральным абавязкам заявіць: краіне, як паветра, неабходна змена палітычнага і эканамічнага курсу, змена лідэра.

Фактычна новы рух і яго кіруючы орган — выканкам — можна лічыць структурай, гатовай узяць на сябе функцыі па каардынацыі дзеянняў "пяцёркі". Разам з тым усяляк падкрэсліваецца, што гэта не партыйная структура і што сябры руху ў выпадку перамогі дэмакратычнага кандыдата не намераны прэтэндаваць ні на якія пасады.

Як прынята ў сучаснай Беларусі, з'яўленне новай, апазіцыйнай па духу арганізацыі адразу пачало суправаджацца рознымі дзіўнымі падзеямі. Так, напярэдадні ўстаноўчага сходу быў збіты адзін з арганізатараў руху — старшыня Савету рэспубліканскага Саюзу жыллёва-будаўнічых кааператываў Іван Анташкевіч. Загадкавыя хуліганы невядома на што скралі ў яго "дыпламат" са спісамі "падпісантаў". Аднак навіна гэтая была ўспрынята спакойна — ставячы свой подпіс, людзі памяталі, дзе жывуць і на што ідуць.

**Сяргей МАНАСТЫРСКІ.**

*******************************

## У Беларусі рэанімуюць сталінізм

**Віктар Мухін**

Да сёньня мы ня ведаем усяго пра злачынствы савецкае сыстэмы, пакуль невядома, колькі таямніцаў схавана й у зацішных кутках, і ў сакрэтных архівах КДБ. На пытаньні RR адказвае гісторык Ігар Кузьняцоў, які сваім часам меў магчымасьць вывучаць сховішчы КДБ.

**RR:** - У Віцебску нядаўна выявілі пахаваньне амаль 2.000 чалавек, расстраляных супрацоўнікамі НКВД, спасярод якіх, магчыма, ёсьць і польскія грамадзяне, арыштаваныя ў 1939-41 гг…

**І.К.:** - Ёсьць дакумэнтальныя сьведчаньні, што у сутарэньнях віцебскага НКВД стралялі людзей, спасярод якіх былі польскія грамадзяне. Аднак я не падзяляў бы расстраляных паводле нацыянальнае прыкметы. Бо паляк з нацыянальнасьці й пашпартны паляк - розныя рэчы. Паводле афіцыйных зьвестак у Беларусі рэпрэсавалі пад 600.000 чал.: 250.000 чал. былі рэпрэсаваныя паводле пастановаў судовых органаў і 350.000 паводле адміністрацыйных справаў. Паводле маіх падлікаў пад рэпрэсіі трапіла 1.500.000 чал.

**RR:** - Усім вядомыя зьверствы нямецкіх дывізіяў SS (Staatssicherheit) у Беларусі за часоў акупацыі. Але няўжо зьверствы сталінцаў -- меншае зло?

**І.К.:** - У СССР рэпрэсавалі ад 5-20 % жыхар-

ства. У фашыстоўскай Нямеччыне, нават з улікам яўрэяў, пад рэпрэсіі трапіла 1-2 % насельніцтва. Гітлераўцы зьнішчылі болей, але яны праводзілі палітыку генацыду на абшарах іншых краін. У нас жа праводзілі палітыку генацыду ў дачыненьні да ўласнага народу. Мінула ўжо 12 гадоў, як сказалі праўду пра Курапаты. За гэтыя гады правялі чатыры сьледзтвы, апошняе да красавіка 1999 г.праводзіла Вайсковая пракутаратура. І заўсёды выснова была адна й тая ж - людзей стралялі супрацоўнікі НКВД. І ўсё ж, у красавіку на БТ паказалі фільм, дзе паставілі пад сумнеў высновы дзяржаўных сьледчых органаў. Ува ўрочышчы Курапаты спачываюць парэшткі савецкіх грамадзянаў, аніякае іншае вэрсіі сьледчыя не пацьвердзілі: ані вэрсіі пра гамбурскіх яўрэяў, ані вэрсіі г. зв. "грамадзкае камісіі", нібы ў Курапатах людзей стралялі беларускія нацыяналісты! Хіба будзе пятае сьледзтва, зноў будуць косткі варушыць у Курапатах?! 25 лютага 1995 г. у газэце "Мінская праўда" намесьнік начальніка Ўпраўленьня КДБ Менску й Менскае вобласьці сп. Андрэеў сьведчыў, што ягоны дзед, калгасьнік Пятро Дамарадзкі, быў расстраляны ў Курапатах як "польскі шпіён". Няўжо супрацоўнік КДБ, які меў доступ да архіваў свайго ведамства, кепска разабраўся, дзе ягонага дзеда расстралялі?! КДБ нават пэўны час выдавала грамадзянам даведкі, што іхных сваякоў расстрэльвалі ў Курапатах. Апрача Курапатаў у Беларусі дзясяткі месцаў масавых расстрэлаў. На жаль, у нашай краіне цяпер рэанімуюць сталінізм.

=====================================

# ТБМ не здаецца

**Віктар Мухін**

VII Зьезд Таварыства беларускае мовы адбыўся ў сталічным Доме літаратара 20 траўня. Старшынём арганізацыі застаўся Алег Трусаў. Зьезд ТБМ ушанавалі сваёю прысутнасьцю патэнцыйныя кандыдаты ў прэзыдэнты: Міхаіл Чыгір і Павал Казлоўскі, Сямён Домаш даслаў тэлеграму.

П. Казлоўскі гаварыў пра значэннасьць беларускае мовы - неацэнны скарб усяго народу, а закончыў свой выступ усяго адным словам: "Спасибо!" Адзін з дэлегатаў Зьезду дасьціпна пракамэнтаваў: "А гэта ён сказаў ад сябе". Нягледзячы на заклік ТБМ да кандыдатаў у прэзыдэнты карыстацца ў агітацыі й публічных выступах роднаю моваю, усе яны вядуць сваю кампанію вылучна па-расейску. Вось як гэта аргумэнтуе экс-прэм'ер, сябра ТБМ М.Чыгір: "Кожны кандыдат мае дзеіць з пажаданьняў сваіх выбарнікаў, якія, на жаль, хочуць, каб зь імі гаварылі расейскаю моваю".

Вінцук Вячорка, выступаючы на Зьезьдзе, задакляраваў, што пасьля перамогі на сёлетніх выбарах урэшце скончыць працу над зборам правілаў клясычнага правапісу. Нам. амбасадара ЗША Джон Кунстатэр у сваім выступе падкрэсьліў: клясычны правапіс нясе ў сабе зусім іншую мэнтальнасьць. Праблема мовы й правапісу, на жаль, бадай не абмяркоўвалася на Зьезьдзе. А варта было б. Газэта "Наша слова", орган ТБМ, штонумару поўная памылак. Рэдактар газэты С. Суднік адпрэчыў вінавачаньні ў непрафэсійнасьці й незьмястоўнасьці свайго выданьня: "У "Нашым слове" ніколі не было аніводнага русізму, аніводнага небеларускага слова. Артаграфічныя памылкі выкліканыя тэхнічнымі прычынамі". На тое, каб газэта выходзіла тарашкевіцаю, патрэбная пастанова зьезду. С. Суднік цьвердзіць: "Я гарантую, што тарашкевіца, што ўжывалася б у "Нашым слове", была б ня горшая за тарашкевіцу "Нашае Нівы". Я забясьпечыў бы пільнаваньне асноўнага правіла беларускае мовы: як чуецца, гэтак і пішацца". С.Суднік сам патлумачыў, чым ёсьць ягоная тарашкевіца: "Кожны яе трактуе як умее, адзін умее лепш, другі - горш".

"Галоўная мэта ТБМ – скарыстаць прэзыдэнцкую кампанію, каб стварыць нацыянальны ўнівэрсытэт. Другое заданьне - стварыць нашыя структуры ўва ўсіх гарадох і мястэчках. Усё іншае прыкладзецца", - кажа А. Трусаў. У будучыню ТБМ глядзіць упэўнена. На думку А.Трусава, нават калі пераможа на выбарах Лукашэнка, ён будзе змушаны зрабіць вальнейшым разьвіцьцё нацыянальнае мовы й культуры. У кожным разе, тэбээмаўцы маюць свой плян дзеньняў: на Зьезьдзе разгледжаны праект "Стратэгіі абароны й разьвіцьця беларускае мовы ў XXI ст."

******************************************



# Год Быкава

*Польскі ПЭН-клюб мае вылучыць беларускага пісьменьніка на атрыманьне Нобэлеўскай прэміі*

Усе ранейшыя размовы пра вылучэньне кандыдатуры Васіля Быкава на атрыманьне самай прэстыжнай літаратурнай прэміі сьвету былі неафіцыйнымі. Думка чытачоў ці крытыкаў, нават самых прызнаных, мала значыць для Нобэлеўскага камітэту. Згодна з традыцыяй, афіцыйных кандыдатаў могуць вылучаць толькі нацыянальныя ПЭН-клюбы — незалежныя асацыяцыі пісьменьнікаў.

Вылучыць кандыдатуру аўтара "Знаку бяды" і "Сьцяны" бярэцца сёлета польскі ПЭН-клюб. Афіцыйнае рашэньне пра гэта маюць прыняць у Варшаве ўлетку. Дзеля гэтага на Бацькаўшчыну мае прыехаць Чэслаў Мілаш, нобэлеўскі ляўрэат 1980 г. Цікава, ці далучацца да просьбы палякаў расейскія ды нямецкія пісьменьнікі.

Гэтая прэмія стала б прызнаньнем краіны і нацыі, якія сёньня ў сьвеце больш вядомыя хамствам і беззаконьнем Лукашэнкі, разваленай эканомікай і паталягічнай інтэграцыяй з Расеяй.

******************************************

## *НАМ ПІШУЦЬ...*

### Каратка з жыцьця Беларусаў у Аўстраліі

Ад 23 да 26-га сакавіка г. г. у Мэльбурне, штат Вікторыя прайшоў 13-ты Зьезд беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. На Зьезд прыбылі прадстаўнікі з чатырох штатаў. Былі прысутнымі такія вядомыя асобы, як Міхась Раецкі (малодшы), Віктар Кавальскі, а. М. Бурнос, Паўлюк Гуз, Алег Шнэк, Т. Шайпак, Аўген Груша, Міхась Ціхон...

Удзельнікі здалі пісьмовыя справаздачы з дзейнасьці сваіх арганізацыяў за апошнія 4-ы гады.

У новую Управу ВК-ту Ф. Рады на наступныя 2 гады былі выбраныя: Аўген Груша, Паўлюк Гуз, А. Шнэк, В.і Г. Шайпакі, В. Жукаў і Янка Барысевіч.

Старшыня мясцовай арганізацыі БЦК Паўлюк Гуз апрацаваў Рэзалюцыю Зьезду. Зьезд закончыўся сьпевам беларускага нацыянальнага гімну — "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" ды агульнай фатаграфіяй прысутных...

—— * * * ——

Адзначэньне 25-га Сакавіка прайшло ўрачыста і дастойна. Айцец А. Кулакоўскі ў саслужэньні а. Ігара і а. Міхася адразу пасьля сьв. Літургіі адслужылі малебень за беларускі народ. У зьместоўнай пропаведзі гаварылася пра змаганьне беларусаў за волю і свабоду, пра адважных людзей, якія аддалі сваё жыцьцё каб жыла Беларусь. Прысутныя са сьлязамі на вачох malілі Бога, каб паслаў беларускаму народу шчасьце і дабрабыт. Пасьля малітвы "Магутны Божа", а. А. Кулакоўскі запрасіў усіх перайсці у прыцаркоўную залю, дзе адбылася сьвецкая частка сьвяткаваньня.

Пасля перакускі сп. П. Гуз зачытаў надасланыя сьвяточныя прывітаньні з розных краёў сьвету. Прынагодны рэфэрат з нагоды 25-га Сакавіка прачытаў сп. А. Шнэк, а пасьля сп. П. Гуз давёў да ведама прысутных зьмест Рэзалюцыі 13-га Зьезду Беларусаў Аўстраліі.

Мастацкая частка сьвяткаваньня была разнастайная і, як заўсёды, цікавая, — гэта песьні, дэклямацыі ды прыгожыя нацыянальныя строі.

Урачыстая акадэмія закончылася сьпевам нацыянальнага гімну — "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." Пры гэтай нагодзе было таксама сабрана каля 300 даляраў на "Дар Сакавіка".

*П. Дуброўскі-Гуз.*

———————————————

## 50-я ЎГОДКІ НЬЮДЖЭРЗІЙСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА

Аглядаючыся на пройдзены 50-гадовы шлях, трэба сказаць, што за гэтыя гады ньюджэрзійскі аддзел БАЗА прарабіў вялізарную працу, пакінуў глыбокі сьлед у гісторыі беларусаў Амэрыкі. Пра гэтую дзейнасьць будзе шмат сказана ў кнізе З. Саўкі, якую аўтар неўзабаве павінен скончыць... Хоць храналёгія ня зусім поўная, з яе вельмі добра відаць, што праз паўстагодзьдзя дзейнасьць аддзелу была вельмі актыўная і багатая дасягненьнямі.

Увасабленьнем гісторыі аддзелу і працу ў ім зьяўляецца сп. Янка Азарка, чалавек унікальны тым, што ён быў сябрам управы аддзелу, або ягоным старшынём, праз усе 50 гадоў без выключэньня. Выдатная ўся сям'я сп. Азаркі. Ягоны сын Юрка, сучасны старшыня аддзелу і Юркаў сын Крыштофар таксама вельмі дзейныя ў беларускай нацыянальнай працы.

Сп. Янка Азарка даў мне на прагляд некалькі паасобнікаў газэты "Бацькаўшчына" з канца 1950-х гадоў. Вось-жа, калі перачытваеш у іх хроніку беларускага жыцьця на эміграцыі, бачыш, якім актыўным было тады, дзякуючы кіраўнікам і працаўнікам аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзі, грамадзка-культурнае жыцьцё ў ваколіцах Саўт-Рывэру і Нью-Брансвіку. Адзначаліся нацыянальныя сьвяты, юбілейныя даты, працавалі жаноцкая сэкцыя аддзелу, танцавальныя гурткі, беларуская школка, арганізоўваліся дзіцячыя ялінкі, пікнікі, фэстывалі, выстаўкі.

У травені 1959 году на гадавым сходзе аддзелу БАЗА Саўт-Рывэр — Нью-Брансвік было адзначана, што гадавы абарот касы аддзелу склаў больш за 4000 даляраў. У справаздачы ў газэце "Бацькаўшчына" Часлаў Ханяўка пісаў: Дзякуючы асабістай энэргіі старшыні Янкі Дубягі было сабрана 393 даляры на беларускія радыёперадачы ў Нью-Ёрку... Найбольшым дасягненьнем была купля за 12000 даляраў царкоўнай зямлі ў супрацоўніцтве з мясцовай царкоўнай радай БАПЦ. Дзякуючы безінтэрэсоўнай і ахвярнай працы настаўнікаў, рэгулярна адбываюцца заняткі ў беларускай школе ў Нью-Брансвіку. Вялікую грамадзкую працу выконвае прадстаўнік газэты "Бацькаўшчына" сябра аддзелу сп. Браніслаў Даніловіч. Як і папярэднія гады, ува ўсёй працы брала ўдзел і памагала жаноцкая сэкцыя".

Дарэчы тут будзе адзачыць запачаткаваную аддзелам БАЗА адну традыцыю ў Саўт-Рывэры. Калі там адзначаліся ўгодкі 25-га Сакавіка, стараньнямі аддзелу пад старшынствам Сяргея Гутырчыка ўпяршыню быў вывешаны каля гарадзкой управы, разам з амэрыканскім, беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Традыцыю вывешваньня двух сьцягоў у дзень угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР і па сёньня годна працягваюць прыхаджане сьвятаеўфрасіньняўскай царквы ў Саўт-Рывэры.

У гэтай атмасфэры самаахвярнай грамадзкай працы вырасла цэлае пакаленьне амэрыканскіх беларусаў, якое забясьпечвае сёньня працяг дзейнасьці. Да нас цяпер, у выніку вялікіх зьменаў у Беларусі, далучаюцца новыя людзі з Бацькаўшчыны, якіх мы радыя бачыць, сардэчна вітаем тут сярод нас і шчыра цешымся з іхнага далучэньня да Беларуска-Амэрыканскага Задзі-

**(далей на 12-й бач.)**

ночаньня.

Адным з галоўных заданьняў БАЗА на пачатку ягонага існаваньня, апрача сваіх арганізацыйных справаў, было дапамагчы беларускім сем'ям у Нямеччыне і матэрыяльна, і выстаўляньням афідавітаў на пераезд у Злучаныя Штаты. Сёньня-ж БАЗА дапамагае суайчыньнікам з Беларусі высыланьнем запросінаў, выстаўляньням афідавітаў ды рознымі парадамі, у тым ліку прадстаўніцтвам перад амэрыканскімі іміграцыйнымі ўладамі, а таксама грашовай дапамогай у рабленьні першых крокаў на амэрыканскім грунце.

У нашай супольнай працы ды ўзаемнай дапамозе — Жыве Беларусь! *Я. З.*

## Праздник для души, или наши в Новосибирске.

22 апреля состоялся удивительный белорусский праздник в городе Новосибирске. Был и официальный повод: открытие Белорусского культурного центра – как государственного учреждения, где областная Администрация Новосибирской области выделяла 7 ставок. Директором БКЦ назначена Кабанова Нина Васильевна.

Нина Васильевна давний активист белорусского движения в Новосибирске. Она была в составе правления Национально-культурной автономии «Беларусы Сибири», и, как говорят, правой рукой Галузы Владимира Васильевича – Президента автономии, который к сожалению неожиданно для всех преждевременно ушёл из жизни.

Владимир Васильевич много сил приложил к подготовке этого праздника.

Ещё в декабре прошлого 2000 года на 3-ем Конгрессе беларусистов мы встречались с ним и обговаривали условия проведения мероприятия. Давно я уговаривал Владимира Васильевича выступить инициатором проведения Всесибирского Фестиваля Белорусской Песни. Но безусловно, хотя город Новосибирск более других городов Сибири, подходил в качестве Центра для проведения такого мероприятия, решиться на такой шаг было сложно. Ведь это огромные и финансовые расходы, это и большая организационная работа, да и предлог был необходим.

И вот в декабре мы с Владимиром Васильевичем наконец-таки решили все эти вопросы. Новосибирцы решились на проведение такого мероприятия. При подготовке его было задействовано много сил прежде всего актива НКА «Белорусы Сибири». Сам Галуза В. В. провёл огромную работу, но к сожалению самого праздника не дождался…

Но его дело подхватила Кабанова Нина Васильевна, которая и стала «Хозяюшкой» этого замечательного праздника.

На открытие Новосибирского Белорусского Культурного Центра прибыли: ансамбль белорусской песни из Тюмени «Лянок»; фольклорный ансамбль «Зязюля» из белорусской деревни «Калбаса» Кыштовского района Новосибирской области; а также Новосибирский ансамбль белорусской песни «Азарычы». Наши иркутяне были представлены двумя группами: это дуэт «Пралескі» и фольклорный ансамбль «Ленушка».

Говорить кто был лучше или хуже, не представляется возможным. Все выступающие показали великолепное профессиональное умение даже не главным. Главным было то, что собрались друзья. И не только по желанию профессионально выступать на сцене. Собрались любители и знатоки БЕЛОРУССКОГО фольклора и культуры. Ведь сколько было совместных находок, сколько общих песен, которые с одинаковым прекрасным желанием исполняли и тюменцы, и новосибирцы, и иркутяне.

Конечно же у каждого был свой стиль.

Девчата из деревни «Калбаса» пели в стили аутентичного фольклора без какого-либо аккомпанемента. Они пели так, будто совсем недавно покинули Беларусь. Хотя на самом деле их деревня насчитывает 150-летнию историю. И девушки никогда даже не были в Беларуси. Но стиль и манера перенятая от своих бабушек и прабабушек выдавал их белорусское происхождение. Лично меня поразила Наталья Хмарова своей задорностью, своим белорусским произношением, своим стилем общения. Я сам родом из белорусской деревни. Так вот «колбаски» вели себя так же как у нас в Витебской области ведут себя деревенские девчата.

Ансамбль «Лянок» из Тюмени безусловно состоит из колоритных личностей, в каждом из них угадывается общее только одно – это любовь к белорусской культуре и языку. Тамара Григорьева великолепно показала свою виртуозность игры на народном белорусском инструменте – цимбалах. Людмила Татаринцева – это находка для любого профессионального театра, разговорного жанра. Её байки, весёлые рассказы, забавные шутки доставляли огромное наслаждение всем присутствующим. И всё это на замечательном колоритном белорусском языке. Замечательно ещё и то, что её сын также перенял прекрасное знание белорусского языка и артистичность. Тюменцы могут быть спокойны, у них достойная смена.

О Новосибирском ансамбле «Азарычы», можно сказать одно – это настоящие профессионалы с большой буквы. В составе ансамбля всего четыре человека, но такое обилие инструментов, не было ни у кого. Они играли и на скрипке, и на большой балалайке, и на различных баянах, использовали дополнительные инструменты – бубны, трещётки и т.п. Одним словом, задавали тон всевозможнейшего народного музыкального стиля.

А что же можно сказать о наших молодых иркутских девушках? Я не буду лукавить и скажу честно. Наши иркутяне заворожили всех. Прежде всего сочетанием юности и профессионализмом в исполнении песен. Ко мне после концерта подходили многие новосибирские белорусы и искренне ( я в этом ни сколько не сомневаюсь) признавались, насколько они были поражены задорностью, живостью, лёгкостью, красотой многих, это юность наших девчат и прекрасное знание белорусского фольклора. Мне задавали один вопрос: где я их нашёл, как смог собрать вместе. Ответ очень прост. Каждая из девушек – это прежде всего Личность. Они сами работают над собой и над своим музыкальном профессионализмом. А объединить их вместе смогла художественный руководитель ансамбля Сипакова Татьяна Владимировна, которой лично я бесконечно благодарен. Моя же заслуга здесь совсем не велика – я решаю лишь некоторые организационные вопросы. Что меня ещё радует: так это желание и огромное стремление девушек к изучению белорусского фольклора и обрядов. Хотя здесь пока не обходится и без моих консультаций. В итоге у нас получаются замечательные национальные Обряды. Сейчас, кстати полным ходом идёт подготовка к «Купальлю – 2001».

Хотелось бы, чтобы подобные фестивали проходили как можно чаще. И не только на уровне Сибири, но и на Всероссийском уровне, да и Всемирном. Почему бы кстати не провести Фестиваль Белорусской песни в Минске с приглашением ансамблей из Белорусских диаспор. Лично я уверен мои девчата не ударят в грязь лицом на любом Форуме. Мы готовы показать своё умение и поучиться у других.

Кстати это может служить великолепным стимулом в поддержании Белорусской культуры за пределами нашей исторической Родины. Давайте общаться, давайте обмениваться опытом, давайте ездить друг к другу в гости. И тогда белорусам не грозит изоляция и растворение среди других народов. И тогда мы сохраним свои традиции. А значит Беларусь будет жить! Жыве Беларусь!

**Олег Рудаков**

Председатель Рады ИТБК.

## Таварышч Сычэўскі любіць рэжым Лукашэнкі…

**Пасол СЛДс Ян Сычэўскі абвяргае, быццам-бы падчас сваёй прамовы на Усебеларускім Сходзе ён крытыкаваў Польшчу і хваліў Беларусь ды актуальныя ўлады краіны. "З майго выказваньня нельга было зрабіць высноў, што я хвалю гэтую ўладу" – сказаў сёньня на прэс-канфэрэнцыі Сычэўскі. Сродкі масавай інфармацыі Польшчы пішуць, што казаў ён, між іншым, што і Польшча і Беларусь гэта маладыя дэмакратыі, дзе адбываецца трансфармацыя. "Аднак паняцьце дэмакратыі рознае. У Польшчы, на прыклад, гэта ўлада народу, але пад дыктоўку іншых дзяржаваў. Самі ведаеце, якіх" – дадаў Сычэўскі. Ягоным меркаваньне, сытуацыя ў Беларусі лепшая – там не дазваляюць раскрадаць нацыянальную маёмасьць, а даход з прыватызацыі прызначаецца на патрэбы ўсяго грамадзтва, а не некалькіх бізнэсмэнаў. Ян Сычэўскі зьяўляецца старшынём Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства. Беларусь ён уважае сваёй другой айчынай і цікавіцца яе справамі, але, як сказаў журналістам, ня мае поўных ведаў пра яе ўнутраную сытуацыю.**




**Старшыня СЛДс Лешак Мілер здзіўлены выказваньнем Сычэўскага. Ён сказаў, што за такі ўчынак, як паліваньне брудам сваёй краіны за яе межамі, пасол польскага Сэйму павінен панесьці адказнасьць. Але Мілер ня можа пакуль што сьцвердзіць, якія крокі партыя прадпрыме адносна свайго чальца Яна Сычэўскага**

## Пад знакам Народнай самааховы

**Міхал Карневіч, Горадня**

Нечакана востры паварот паўстаў у ад- носінах Гарадзенскай газэты "Пагоня" з КДБ. Як раней распавядала Радыё Рацыя, напярэдадні маючага адбыцца ў Горадні парлямэнцкага саміту Беларусі й Расеі рэдакцыя атрымала факс ад невядомае дагэтуль арганізацыі - Рады камандзіраў Беларускай Народнай самаахововы, у якім была пагроза жыцьцю дэпутатаў. Факс быў апублікаваны ў газэце 10-га траўня. Рэдактара газэты Міколу Маркевіча й журналіста Паўла Мажэйку выклікалі на допыт ужо тройчы.

Цяпер справу газэты вядзе сьледчы Барыс Рагімаў, які сваім часам займаўся й справай Паўла Шарамета. Яго, аднак, цікавіць ня столькі заява Беларускай Народнай самаахововы, колькі пытаньне, як робіцца вёрстка, колькі зарабляюць журналісты й да таго падобныя рэчы. "Больш за тое, - заявіў Мікола Маркевіч. - Нас цяпер ужо зьвінавачваюць не за тэрарызм, але за неданясеньне КДБ вядомай нам інфармацыі".

Зрэшты, і тое, і іншае падпадае пад нормы Крымінальнага кодэксу.

Нядаўна рэдактара "Пагоні" Міколу Маркевіча, зь ягоных словаў, разам з Паўлам Мажэйкам пакінулі ў замкнёным асобным пакоі - нібыта пачакаць сьледчага. Спадар Маркевіч сьцьвярджае: у яго было адчуваньне, што рэдакцыю хочуць зачыніць. Альбо іх папросту запалохваюць?.. На допыты выклікаюць нават тэхнічных работнікаў, якія, вядома ж, ня могуць анічога паведаміць адносна заявы.

Мы расцэньваем дзеяньні супрацоўнікаў КДБ як наступ на свабоду слова, як спробу задушыць беларускую газэту, пазыцыя якое вельмі не даспадобы беларускім уладам" , - даводзіць Мікола Маркевіч.

21 траўня на апошнім допыце рэдактар "Пагоні" зрабіў пісьмовую заяву, што надалей адмаўляецца хадзіць на пустапарожнія размовы няведама пра што.

